


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Падляшша ў аб'ектыве →3

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 01 (3269) Год LXIV | Беласток, 6 студзеня 2019 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# На Куццю

Штогод маем такі вечар, калі ў мільёнах дамоў ва ўсім свеце думкі хрысціян (католікаў два тыдні раней чым праваслаўных) кіруюцца ў Святую Зямлю і Віфлеем, дзе звыш дзвюх тысяч гадоў таму збылася тайна прыходу на свет Збавіцеля — Дзіцяткі Ісуса.

Традыцыя калядных святкаванняў — гэта гісторыя людзей, якія заўсёды цешацца, што Бог з'явіўся між імі. Чакаюць яны першай зоркі на небе — сімвала нараджэння Месіі.

Амаль у кожным доме ўпрыгожваюць ёлку — сімвал райскага дрэва, дрэва жыцця. Калядны стол, сена пад абрусам і дванаццаць страў. Аплатка і куцця — знак Бога, які ёсць хлеб радасці, прымірэння і пажаданняў. Спяваныя калядкі ўводзяць нас у радасць Раждаства Хрыстова. Збываецца гімн нябеснага воінства „Слава Богу ў вышніх і на зямлі мір, а ў чалавеках прыхільнасць і добрая воля".

Расказвае **Галіна КУЛІК**, 1946 года нараджэння з Орлі, родам з Сухініч Сакольскага павета. Успамінае традыцыю свята Каляд з гадоў свайго дзяцінства пры бацьках і ў сваёй сям'і ў Орлі.

Свята Каляд у бацькоўскай сям'і было вельмі традыцыйнае; добра яго помню з дзесяці гадоў. У сям'і было нас пяцёра — чатыры дзяўчыны Надзя, Зося, Антаніна і я ды наймалодшы брат Канстанты. Куццю рыхтавала мама Ніна; бабуля Вольга вельмі коратка жыла пры нас.

З дзіцячых гадоў запамяталася мне наступнае. Дзедка Барыс быў цяжка хворы. Пасля вяртання з бежанства зрабіў сабе такі драўляны вазок для перамяшчэння, бо адняло яму ногі. Служыў у войску, не ведаю ў якой арміі. Цэлая дывізія была заперта ў падвале. Адтуль выйшла толькі некалькі чалавек. Вывезлі потым на „цёплыя воды", пазавязвалі вочы, каб не аслеплі.

Мама нарадзілася ў дарозе з бежанства. Бабуля хадзіла араць у поле. Калі вярнуліся, нічога не было, усё было спалена, жылі ў ацалелым у хаце склепе.

Пасля мы, дзеці, ужо апекаваліся дзедкам. Дзядзькі былі музыкальныя і ў нашым доме быў цэлы аркестр. І ўся мясцовасць сходзілася да нас. Адзін дзядзька, Ян, іграў на педальным гармоніку, другі, Мікалай, на скрыпцы, а Аляксандр бубніў. Было вельмі файна.

Свята рыхтавалі бацькі. Мама ўсё пякла ў хлебнай печы. А дзеці прыбіралі. Ёлку мы самі ўпрыгожвалі — ватай, рабілі ланцужкі з саломы і паперы, і наверх звязду самі рабілі. Вешалі яблыкі, пячэнне. А свечкі ўстаўлялі ў спецыяльныя аправы. Калі гарэлі, трэба было пільнаваць.



Галіна Кулік: *Нашы дзеці наведваюць нас на кожную Куццю*

Былі яшчэ такія грушкі. Тата да таго клаў іх некуды ў сена. А мы пыталі, адкуль ён узяў такія смачныя. А гэта нашы, — адказваў, — вы не хацелі есці бо былі цвёрдыя.

Мама сушыла многа садавіны — яблыкі, грушы, слівы ды варыла варэнне і кампоты. І выпякала з сушаных груш булку з начынкай — адварвала сушаныя грушы і малола іх. Пячэнне было такое смакавітае, што запомніўся той смак на ўсё жыццё. Пякла на патэльні блінчыкі і пасля залівала іх макам з мёдам. Пякла дражджавое печыва, варыла кампоты.

Для куцці варылі панцак, а мы, дзеці, малолі мак і кожны дадаваў яго паводле свайго смаку. Бацька прывозіў з крамы рыбу. Рыбы тады было многа: белая траска (дорш), макрэль, селядцы — і ўсё перараблялі на свой лад. Былі таксама рыбныя кансервы.

І яшчэ мусіла быць чырвонае віно добрага сорту. Не ведаю, адкуль тата яго браў і яшчэ дазваляў — мяне гэта здзіўляла — даваць крыху дзецям.

І мы, дзеці, чакалі таго ўсяго і ўсё нам вельмі смакавала. Мама старалася, каб было як найменш смажанага, каб выпечы ўсё ў хлебнай печы.

Тата прыносіў сена на цэлы стол. Сена было многа, каб пасля было што даць каровам.

Перад пачаткам вячэры трэба было ўстаць і згаварыць малітву „Ойча наш" і заспяваць калядку.

Падарункаў пад ёлкай не было. Але пад свята мама заўсёды нешта нам, дзецям, рыхтавала — новую сукенку ці што. Каб пад свята было нешта новае.

Каляднікі ў нас, на Сакольшчыне, па вёсках хадзілі толькі на Вялікдзень. А ў Орлі дзеці, калі падраслі, то хадзілі на Каляды.

Куцця заўсёды была з бацькамі ў сямейным доме, а калі адышлі, то брат, які застаўся ў сямейным доме, нават калі быў сам, бо не хацеў ехаць у госці, стаўляў пустую пасуду.

**— А калі Вы кончылі школу і выехалі на працу ў Орлю, то ўжо на Куццю не ездзілі да бацькоў?**

— Былі малыя дзеці і выязджалі мала, бо і маразы, і складана было даехаць. Але ездзілі ўжо на Вялікдзень. Да нас бацькі прыязджалі на Куццю.

**— Вы ў Орлі працавалі загадчыцай „Практычнай пані". Як гэта выглядала ў той час?**

— Працавала з паловы 1960-х гадоў. Выязджалі ў вёскі па ўсёй гміне. Тады нават пральных машын не было. Трэба было вазіць прыборы і паказваць. Пераважна збіраліся ў Колах вясковых гаспадынь у Крывятычах, Крывой, Шарнях, Рудутах, Вульцы-Выганоўскай, Тапчыкалах, Малінніках. Такія гурткі былі амаль у кожнай вёсцы. Збіраліся па хатах, бо святліцы былі ў дрэнным стане. І паказвалі як даныя прыборы працуюць.

Паказвалі таксама кулінарныя навінкі. Для прыкладу, у крамах было многа рыбы, але людзі мала яе спажывалі. Не ведаю чаму. То мы паказвалі як зрабіць, напрыклад, па-грэцку ці ў студзіне. Прагрэс прыходзіў з прыборамі — калісь не было міксераў...

**— А што з бацькоўскай традыцыі Вы прынеслі ў сваю сям'ю?**

— Традыцыя захоўваецца, стравы падобныя. Купляем рыбу, селядцы, але ўсё трэба самім перарабіць. Усе дапамагалі ўключна з мужам Міхалам.

**— У Вас, калі ёлка, то ўжо пэўна і падарункі пад ёю?**

— Так. А як дзеці былі малыя (чацвёра дзяцей, тры дачкі і сын, ужо пажэнены), то і Дзед Мароз прыходзіў — запрашалі жыхара Орлі Яна Дэмбарука. А цяпер то мае дарослыя дзеці пераапранаюцца для сваіх дзяцей — маіх унукаў.

**— Як выглядае Вігілія ў Вашых дзяцей?**

— Да гэтай пары мае дзеці прыязджалі на кожную Куццю да мяне. Аднойчы адна з дачок не прыехала, бо акурат нарадзіла. Мая дачка не купляе гатовага, а ўсё сама рыхтуе на Куццю. На нашай сямейнай Куцці ў Орлі было найбольш дзевятнаццаць асоб, самі свае. Маем сямёра ўнукаў.

**— Падарункі?**

— І дзедкі атрымліваюць, і ўнукі таксама наколькі магчыма. Але радасці многа. І кожны мусіць выкупіць падарунак, заспяваць калядку.

**— Дзякую за размову.**

Размаўляў і фатаграфаваў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**





# Прадказанне на 2019 год

Ох і любяць людзі рабіць прадказанні на наступны год. Дакладней любілі раней. У мінулыя гады ад гэтага занятку іх за вушы нельга было адцягнуць. Як толькі год заканчваўся, то прагнозы на наступны сыпаліся як снег за палярным колам. Іх было столькі, што хапіла б для выкарыстання ў якасці забаўляльнай літаратуры на цэлы наступны год. А якія серыялы можна было б паставіць паводле тых прагнозаў, а якія фантастычныя поўнаметражныя стужкі! Гэта ж гатовыя сцэнарыі.

А вось у канцы гэтага года прадказанняў на наступны не тое што зусім няма, але іх настолькі мала, што складваецца ўражанне нібыта зноў адрадзілася інквізіцыя і ўсіх прадказальнікаў спалілі на цэнтральных плошчах як шарлатанаў. Ну нейкія прагнозы то ёсць. І з большага, чамусьці, яны эканамічнага кшталту. І вельмі такія прадказальныя. Прыкладам, што нафта патаннее, Амерыка пабагацее, Расія паглыбіцца ў санкцыі, Украіна ў карупцыю, Еўропа ў бюракратызацыю, дармаеды не ўратуюць эканоміку Беларусі, запрацуе першы блок Астравецкай атамнай электрастанцыі і яшчэ пару-тройку настолькі відавочных рэчаў, што пад сумневам толькі Астравецкая АЭС і застаецца. Ну і глабальнае пацяпленне, канешне, хоць гэта не зусім з эканомікай звязана.

Ну а на палітычныя тэмы прадказальнікі са сваімі прагнозамі сталі значна больш асцярожныя, чым у мінулыя гады. Больш не прызначаюць канкрэтную дату імпічменту Дональду Трампу, а наадварот, цяпер ужо гавораць пра яго маўжлівы другі тэрмін. І з Брэксітам сталі больш разважлівыя, як і з будучыняй Еўрасаюза ў цэлым. Што тычыцца Усходняй Еўропы, дык пра гэта маўчаць зусім, нібыта нехта зоркі на гэтай часткі неба завесіў цёмнымі фіранкамі і пазбавіў усялякай мажлівасці разгледзець іх лёсаносны ход. Хоць тут і на зоркі глядзець не трэба, каб правесці пэўныя аналогіі з гэтай часткі свету. Вось раней каб Уладзіміру Пуціну паднясць свой рэйтынг у Расіі, трэба было пачаць змаганне супраць Украіны за Крым. Ну больш не было яму чым пахваліцца перад сваімі выбарцамі. А зараз ва ўкраінскага кіраўніка Пятра Парашэнкі выбары на носе. І яму асабліва чым пахваліцца перад сваімі выбарцамі няма. І вось ці пойдзе ён шляхам свайго ўсходняга калегі ні адзін прадказальнік адгадаць не бярэцца. А да выбараў на Украіне лічаныя месяцы застаюцца. Ну што за прадказальнікі такія пайшлі непрадказальныя?!

Што да Беларусі, то тут ужо даўно *забыліся* слова рэйтынг. Ён тут нікому не патрэбны, як зайцу стоп-сігнал. Ды каб і быў каму патрэбны, то яго ўсё адно ні ў каго няма дабра такога, ні ва ўлады, ні ў апазіцыі. Беларусы нарэшце сталі жыць паводле прынцыпу „не ствары сабе куміра" і з цікавасцю назіраюць, калі гэтая біблейская мудрасць дойдзе да астатніх. Што тычыцца перамен у сябе на радзіме, то здаецца беларусы вырашылі не ісці на радыкальныя крокі, а дачакацца, калі іх непрыяцелі, і вонкавыя, і ўнутраныя, адыдуць натуральным чынам вызначаным прыродай. Нешта падобнае на канфуцыянства. Хоць могуць і перадумаць. Хто іх ведае. Народ непрадказальны.

Многія скептыкі, для таго каб паказаць, што сэнсу ў прадказаннях няма, прыводзяць прыклад з Савецкім Саюзам. Маўляў ніхто не прадбачыў развалу СССР. А я вам скажу так, што там той СССР у параўнанні з падзеямі гэтага года! Ну хто мог прадбачыць, што ў гэтым годзе на конкурсе прыгажосці, дзе выбіралі самую прыгожую жанчыну планеты, з журы выганяць усіх мужыкоў. Вось ён гендар у завершанай форме. І пік росквіту фемінізму. А вы кажаце Савецкі Саюз! Хіба ён вярнуўся, той Саюз, толькі з іншай назвай.

Ці вось, хто мог прадбачыць, што пачнецца працэс адмаўлення ад калядных ялінак, бо яны, нібыта, абражаюць пачуцці вернікаў з іншых канфесій. Гэта ўжо пік росквіту паліткарэктнасці. І што там у тых вернікаў за пачуцці такія?! Ну хто мог такое прадбачыць! Хаця калі пакапацца ў спадчыне вялікага Мішэля Настрадамуса... Ды і індзейцы майя прадказвалі, што нашаму свету хана прыйдзе... І адкуль яны ўсе ведалі пра той конкурс прыгажосці і працэс адмаўлення ад калядных ялінак?!

Таму на 2019-ты год у мяне ўсяго адно прадказанне — гэты год усіх прыемна здзівіць. Ну проста вельмі хочацца, каб так было. Даўно мы прыемна не здзіўляліся.

Віктар САЗОНАЎ

# Метафізіка смаку дзяцінства



Сёння мы не ямо, а жарэм — штодзённа мяса, і не толькі на свята далікатэсы, ананасы. Для маладога пакалення гэта норма — яно стомленае ад сытасці. Але чаму гэта таксама ўплывае на старэйшыя пакаленні? У дзяцінстве, а гэта было паўстагоддзя таму, я ніколі не быў галодны. І думаю, што толькі хтосьці па супадзенні неспрыяльных абставін у тагачаснай Польшчы галадаў. У лепшым выпадку, ён можа быў недаеўшы. І менавіта аб гэтым мой фельетон. Аб нядосыці. Не аб перанасычанасці.

Бабулінай картаплянкі з клёцкамі я не любіў. Бедна пасыпанай скварачкамі і кармелізаванай цыбулькай, забеленай малаком ад ранішняга даення, якую бабуля давала на вячэру. Я еў яе трохі, і клаўся спаць з пачуццём ненасычанасці. Але мой стрыечны брат Генё змог выслебтаць яе дзве ці нават тры міскі. Калі кацяўся пасля ў стадолу, дзе летам спалі ўсе дзеці, ён булькатаў, як нахілены гарлач поўны яблычнага віна. Эх, тое бабуліна віно! Мутнае, салодкае і звальваючае з ног. Як свяціліся на яго дзядулевы вочы... Асабліва па нядзелях, пасля вяртання з касцёла. Але для нас, многіх яго ўнукаў, калі мы крыху падраслі, было яно магічнай мікстурай, якая ініцыявала відныя падзеі моладасці і яе першыя канфузы. Ды гэта ўжо іншая гісторыя.

Амаль усе канікулы праводзіў я ў бабулі і дзядулі. У сяле. У палове каталіцкай, у палове праваслаўнай. У цэлым — тутэйшым, супольна-моўным, ні польскім, ні беларускім, проста сама-сваім. Так як мая сястра і іншыя ўнукі. Часам мы звальваліся ім на галаву ўсе адзінаццаць сварлівых, непаслухмяных, паўсюдных пацаноў. Дакладней, гэта нашы бацькі-зязюлі падкідвалі нас у старое гняздо, адмаўляючыся ад сваіх неапераных птушанят, пакідаючы на дзядоў кармленне, апрананне і мыццё сваіх нашчадкаў. Я да гэтага часу памятаю крывадушны лямант нашых маці і бацькоў, як гэта яны вытрымаюць так доўга без дзяцей у пустым доме! Бабуля развітвалася з імі са слязамі на вачах. Дзядуля толькі моўчкі круціў галавой. Сапраўды гэтак жа, як і яго вялікагаловы конь — пакорліва. Дзядуля, напэўна, ужо вылічаў у сваім розуме матэрыяльныя страты, звязаныя з гіперактыўнасцю ўнукаў, а конь колькасць сакавітай травы, якой не пажуе на сонечным лугу ў той час, калі будзе імчацца туды назад па лясной дарожцы да далёкага аўтобуснага прыпынку, адкуль нашы бацькі раз'язджаліся па гарадах. Для сняданку бабуля смажыла бліны. Або бульбяныя, або «содавыя», з белай мукі. Да гэтага быў падсаложаны чай з мяты, што расла пад плотам. Рэдка з'яўлялася на стале спечаная з абодвух бакоў яечня, выпечаная амаль на камень. Часцей таўканіца з абеду, пакінутая нанач у гарачай духоўцы, таксама запечаная на сухі чып. Я не люблю гэтых страў. На шчасце, таўканічка, са скварачкамі, запівалася так званым квасам. Квас бабуля рабіла са жменькі зялёнай цыбулькі і халоднай вады, забеленай смятанай, але хутчэй малаком (бо шкода было смятаны!), а гэта мы з'ядалі да апошняй крышынкі. А тады найбольш пэўным грашом было яйка, устойлівае перад інфляцыяй і пастаянна даступнае, хоць і ў абмежаванай ступені. Але не рашала аб гэтым колькасць гадаваных курэй, але кармавыя рэсурсы для іх, перш за ўсё, заўсёды дэфіцытнага аўса. Таму бабуля шкадавала яек і сабе, і дзядулю, і нам, унукам. Сабраўшы капу яек, купляла за іх у краме соль, цукар і газу. На газу ў асноўным у асенне-зімовы перыяд. Ах, якім жа было зорнае неба, калі начную цемру рассвятлялі толькі газавыя лямпы! Мой тэлескоп, праз які сёння я імкнуся глядзець зорныя сузор'і, ледзь пранікае сваім вокам праз сяйво вулічных ліхтароў. Мала лучыць яго сёння з касмічным сакрумам дзіцячай цікаўнасці. Ён больш дэкаратыўны, чым прыдатны.

У дзяцінстве, апрача бязмежных маленькіх мар кожнага дзіцяці, у мяне былі дзве ўнікальныя і магутныя. Адной з іх з'явілася прага мець астранамічны тэлескоп. Здзейснілася ў маіх спелых гадах.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Святкуйма, а не наракайма

Каталіцкія каляды ўжо за намі. У параўнанні з мінулагоднімі, калі тадышняе англійскае надвор'е і зелень травы нагадвалі іншую пару года, то зараз усё прайшло па-божаму. Быў і снег, і невялікі прымаразак, нават сонца ласкава прабілася праз хмаркі. Адным словам не можна было занадта наракаць, бо здаўна відавочна, што нараканне проста стала неад'емнай часткай нашай штодзённы. Як не глянем, вакол нас штодзённа прасоўваюцца акцыі тыпу дзень без машыны, дзень без папяросы, месяц без алкаголю і таму падобнае. А вось я прапаную ўстанавіць дзень без нараканняў — найлепш мінімум раз у тыдні. Дзень без нараканняў можа некаторым удалося б перавесці плаўна ў тыдзень, а нават і больш. Больш радаснага падыходу да жыцця патрабуем мы ўсе, каб не звар'яцець зусім. І не толькі мы самі, але тыя ўсе людзі вакол нас, якія хочуць ці не хочуць, але прымушаны выслухоўваць нашы нараканні. Тупое нараканне проста адрозніваецца ад рэальнай рэфлексіі і крытычнай заўвагі над парадкам гэтага свету. Ведаю такіх людзей, якія як не панаракаюць, то гавораць, што пачалі сябе дрэнна адчуваць. Нараканне — характэрная з'ява ў больш зборышчах людзей, якая даволі часта заканчваецца міжчалавечай агрэсіяй. І то не толькі слоўнай, але часта проста фізічнай. Гаворачы наўпрост, маем дачыненне да класічнага мардабою ў самым лепшым выпадку.

Пішу невыпадкова пра нараканне акурат перад праваслаўнымі калядамі, бо менавіта ў любы святочны перыяд нараканне пачынае набіраць характару нейкай заразнай хваробы. Проста не стрымаць усіх са сваімі нараканнямі. Ад малых да старых, ад мужчын да жанчын, усе як адзін да аднаго пачынаюць абвяшчаць свае крыўды перад жыццярадасным святам Раджджаства Хрыстовага. Здаецца, усе быццам навыперадкі стараюцца прыступіць да нейкай, няўлоўнай саборнай споведзі. Відаць, хочуць з сябе выкінуць тое, чаго не паспелі, або не захацелі сказаць у царкве перад абліччам Усявышняга. Тут яшчэ раз прыгадваю словы маіх бацькоў, якія паўтаралі, што самым галоўным злом з'яўляецца не тое, што ў рот мы бярэм, але тое, што з яго аддаем у выглядзе слова. Калі менавіта наступае вулкан, такіх міжчалавечых ці міжсямейных слоў, то самае вялікае свята многім становіцца часам болю і цярпення. У галаве, сэрцы і душы няма месца на радасць і прыгажосць.

Святкаванні Нараджэння Хрыстовага і падрыхтоўка да іх без духоўнага вымярэння прыводзяць нас да заблуджэння ў бяздоннай спакуслівасці канзумерызму. Ужо ад першых дзён лістапада пачынаем жыць у свеце калядных мелодый, рэкламных вобразаў святочнага кшталту. Быццам чорт, дзякуючы нашай ненасытнасці, хоча абдзерці нас з усёй велічыні і значэння рэальнага цуду Гасподняга. Па прычыне крыклівай і нахабнай празмернасці рэкламы, часамі находзіць вялікую ахвоту прасіць пра адно: каб як найхутчэй усё было ўжо за намі. Проста немагчыма дзень у дзень слухаць, што ты мусіш купіць тое і тое, падарыць такія і такія прычындалы, набыць смакоцці і ўвесь час грэцца ў агні ёлачных лямпачак. Не стрымаць усяго гэтага.

З аднаго боку свет багацця, а з другога штораз большая колькасць арганізаваных калядных вячэраў для бяздомных і самотных. Штораз больш прапаноў святочнага застолля і адпачынку, а менш калядніпкаў і разумення светласці ад прыходу Хрыста на зямлю. Ці ў змозе яшчэ хрысціяне праяўляць і абараняць сваю хрысціянскасць? Вельмі добра, што людзі яшчэ сябе ўзаемна падтрымліваюць, калі не стае ўжо сямейнікаў, ці родных. Але, бывае і так, што за калядным сталом стаіць пустое месца для госця, але няма месца ў нашых сэрцах для дзіцятка Божага.

Таму, Шаноўныя Чытачы «Нівы», няхай радасць, шчасце і аптымізм загасцююць у Вашых хатах са святам Раджджаства Хрыстовага! Няхай сямейная згода будзе ў Вашых парогах, а калядкі і роднае слова хай гучаць і далёка ляцяць, каб Гасподняе нараджэнне выхвалялі! Усяго гэтага жадае Вам наша рэдакцыя.

Яўген ВАПА

Выставу здымкаў 14 выпуску Агульнапольскага фатаграфічнага конкурсу імя Віктара Волкава «Падляшша ў аб'ектыве» можна будзе наведваць да восені 2019 года ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы, які з'яўляецца галоўным арганізатарам фотаконкурсу. Раней станавіўся ён нават міжнародным конкурсам, паколькі прыступалі да яго жыхары Рэспублікі Беларусь. У гэтым годзе да конкурсу «Падляшша ў аб'ектыве» прыступіла 85 асоб, якія прыслалі больш за 230 фатаграфій. Галоўнымі пераможцамі сёлетняга выпуску сталі жыхары нашага ваяводства, але прымалі ў ім удзел, так як і раней, жыхары іншых ваяводстваў. Да конкурсу прыступаюць гайнавяне, а сёлета іх было многа, паколькі ацэньваліся здымкі групы дзетак Прадшколля № 5 у Гайнаўцы.

Мерапрыемства адкрыў 16 снежня 2018 года ў кіназале дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк, а члены



# Падляшша ў аб'ектыве

журы Яраслаў Хыра і Міхал Косць падвялі вынікі конкурсу, арганізаванага пад ганаровым патранатам маршалка Падляшскага ваяводства і бургамістра Гайнаўкі. Дырэктар Тамаш Ціханюк, Агнешка Ціханюк і прадстаўнікі камісіі ўручылі пераможцам дыпломы і ўзнагароды. Прыбылі на мерапрыемства дырэктар Гайнаўскага дома культуры Расціслаў Кунцэвіч і дырэктар Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы Бажэна Маркевіч, а таксама гайнаўскія дашкольнікі з бацькамі і настаўніцамі. У гэтым годзе першы раз аўтары самых цікавых здымкаў сярод дашкольнікаў Марыя Грыц, Мікола Келбашэўскі, Алівія Мацейчук і Мікола Дружба былі вылучаны і ўзнагароджаны. Пасля ўзнагароджваліся пераможцы з ліку дарослых удзельнікаў, на вялікім экране прэзентаваліся конкурсныя здымкі. Затым сабраныя перайшлі на другіх паверх белмузея, дзе традыцыйна прэзентуюцца шырокафарматныя працы на фотавыставе «Падляшша ў аб'ектыве». Канешне, спачатку самую вялікую зацікаўленасць выклікалі здымкі, якіх аўтары здабылі тры першыя ўзнагароды.



■ Першую ўзнагароду атрымаў Кшыштаф Рышкевіч за фатаграфію рознакаляровага паветранага шара



■ Здымкам Малгажаты Павэльчык (на першым плане царква ў Старым Корніне) камісія прызначыла другое месца

Конкурснае журы, у якім працавалі Бажэна Валенцік, Тамаш Класоўскі, Яраслаў Хыра і Міхал Косць, першую ўзнагароду прызначыла Кшыштафу Рышкевічу з Дубровы-Беластоцкай за фатаграфію рознакаляровага паветранага шара. На здымку было відаць, што шар, які падымаўся да ўзлёту, быў вельмі вялікі ў кантрасце да людзей і перш за ўсё рознакаляровы.

— Я фатаграфаваў раку Бобру і яе наваколле, а таксама зрабіў здымкі шара перад узлётам, з якога рабіў фатаграфіі і менавіта пераможным стаў здымак шара. Фатаграфаванне стварае магчымасць частага кантакту з прыродай, наведвання цікавых месцаў і дае многа радасці. Я не разлічваў на перамогу ў конкурсе, а тым болей, што пераможным стане здымак з шарам, — сказаў пераможца конкурсу Кшыштаф Рышкевіч з Дубровы-Беластоцкай.

Член журы Яраслаў Хыра патлумачыў, чаму камісія рашылася вылучыць на першае месца менавіта гэты здымак.

— Былі выпускі гайнаўскага конкурсу, падчас якіх члены камісіі адразу бачылі пераможныя здымкі, за якія іх аўтары атрымлівалі першыя ўзнагароды. У гэтым годзе мы знайшлі звыш дзесяці зробленых добра ў тэхнічным плане і цікавых здымкаў, з якіх кожнаму можна было б даць першае месца. Таму складана было нам вылучыць сёлетніх пераможцаў конкурсу. Я быў прыхільнікам прызначыць першае месца за фатаграфію, на якой не відаць непасрэдна Падляшша. Аднак рознакаляровы паветраны шар гэта сімвал нашага Падляшша — разнародная ў культурным, нацыянальным, канфесійным і прыродным плане, што было відаць на фатаграфіях прэзентаваных падчас папярэдніх конкурсаў. Разнароднасць Падляшша, паказаная праз магутны рознакаляровы шар, які паволі ўздымаецца, каб пазней узляцець у паветра, — сказаў член камісіі Яраслаў Хыра.

Цікавымі былі тры фатаграфіі Малгажаты Павэльчык з Беластока, за якія камісія прысудзіла ёй другое месца. На чорна-белых здымках нестандартна паказана разнароднасць Падляшша, а пры гэтым іх аўтарка мусіла многа напрацавацца, каб рэалізаваць сваю цікавую, але складаную задуму.

— Я рашылася паказаць у выглядзе адбітка на шыбах тры храмы, характэрныя для трох веравызнанняў, якія ў мінулым дамінавалі на Падляшшы. Мне вельмі прыгожая царква ў Старым Корніне і таму яе сфатаграфавала. Знайшла такі момант, што добра было відаць яе адбітак на шыбе будыначка, які стаіць яшчэ на царкоўнай тэрыторыі і зараз пустуе. Старое акно і фіраначка за ім даюць фантастычны рэзультат. На шыбе пустуючага будынка ў Орлі знайшла я цікавы адбітак сінагогі, а старыя краты на акне добра ўзмацняюць рэзультат майго фатаграфавання. У Тыкоціне знайшла я адбітак касцёла ў акне, дзе стаяў вобраз Хрыста. Фіраначка, краты і вобраз узмацнілі мой трыпціх, — патлумачыла Малгажата Павэльчык з Беластока. — Мы, асобы, якія пастаянна фатаграфуем Падляшша, ведаем адзін аднаго. Падчас фатаграфавання нашы дарогі крыжуюцца. У нас ёсць магчымасць паразмаўляць твар у твар і вядзем дыскусіі на сацсетках. Тут у Гайнаўцы розныя асобы з нашага асяроддзя перамагаюць на конкурсах.

Трэцяе месца камісія прысудзіла Яраславу Клею з Саколкі за цікавы здымак з зубрамі ў Кнышынскай пушчы.

— Я здаўна раблю здымкі зубрам. Ведаю, па якіх сцяжынках яны ходзяць, дзе кормяцца і адпачываюць. Падыходжу бліжэй да іх і стараюся зрабіць непаўторныя фатаграфіі. Трэцяе месца здабыў здымак, на якім відаць зуброў на фоне пары, якая ўздымаецца ад зямлі пасля прымаразку і гэта дае такі цікавы рэзультат, — сказаў Яраслаў Клей з Саколкі.

— Фатаграфіі на выставе — цікавыя і паказваюць прыгожасць Падляшша. Апрача ўзнагароджаных фатаграфій увагі заслугоўваюць, між іншым, тры здымкі, зробленыя гумовай тэхнікай, якіх выкананне патрабуе многа часу і цярплівасці. Іх аўтар, Багуслаў Лебядзінскі, атрымаў вылучэнне, — сказаў член журы Яраслаў Хыра, які заклікаў удзельнікаў конкурсу яшчэ больш працаваць у напрамку шукання цікавых тэм да фатаграфавання і намагацца цікава паказаць задуманае на здымках. Адначасна пахваліў арганізатараў гайнаўскага конкурсу за вялікую арганізацыйную працу ўкладзеную ў яго правядзенне. Член конкурснай камісіі Міхал Косць заклікаў больш фатаграфаваць у духу Віктара Волкава.

Частку экспазіцыі саставілі фатаграфіі з тэрыторыі кампактнага пражывання беларусаў. Сёлета вылучэнне атрымаў, між іншым, Максім Фіёнік са Студзіводаў, які здаўна дакументуе мерапрыемствы, арганізаваныя Музеем малой айчыны ў Студзіводах.

— Я многа фатаграфую, перш за ўсё падчас імпрэзаў, якія арганізуе Студзіводскі музей. Вылучэнне атрымалі дзве фатаграфіі з фальклорных сустрэч «Там по маёвуй росі» і «Олень по бору ходіт», — сказаў Максім Фіёнік.

Вылучэнні атрымалі таксама Адам Высоцкі з Гайнаўкі, Беата Вільчынская з Васількава (узнагароджвалася ў папярэдніх гадах), Багдан Бялчак з Новай Вёскі, Багуслаў Лебядзінскі з Беластока, Роберт Алдакоўскі з Зомбак і Яраслаў Якубчак з Крынак. Яны па-свойму паказалі Падляшша, яго цікавыя месцы і займальнасць і зрабілі гэта ўдала.

— Аўтары фатаграфій, якія прэзентуюцца на конкурснай выставе, сумелі цікава паказаць Падляшша і атмасферу нашага рэгіёна. На папярэднія выпускі конкурсу дасылаліся фатаграфіі асоб, будынкаў і месцаў, якіх ужо не ўбачым. Многія цяперашнія краявіды таксама прамінуць, але могуць застацца на фатаграфіях. Мы вельмі рады, што назвалі наш конкурс іменем Віктара Волкава, які быў найбольш аўтарытэтным фатографам на Падляшшы. Працаваў ён у журы нашага конкурсу і пахваліў наш конкурс, заяўляючы, што ён адзін з самых лепшых сярод тых, у якіх прымаў удзел, — сказаў дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк і дабавіў, што частка прэзентаваных у музеі конкурсных фатаграфій захоўваюць клімат здымкаў Віктара Волкава.

— Падляшша гэта культурная разнароднасць, якую відаць на прэзентаваных на выставе фатаграфіях. Праваслаўе, незвычайная прырода Белавежскай і Кнышынскай пушчаў, разводдзе рэк Нарвы і Бобры, цікавая архітэктура паказаны на выставачных здымках сёлетніх удзельнікаў конкурсу. Некаторыя дасланыя на сёлетні конкурс фатаграфіі тэмай, кліматам і формулай удала спасылаюцца на працы нашага патрона Віктара Волкава, — заявіла Агнешка Ціханюк, арганізатарка фотаконкурсу, спонсарамі якога выступілі Гарадская ўправа ў Гайнаўцы, Павятовае староства ў Гайнаўцы, Маршалкоўская ўправа ў Беластоку і Рэгіянальная дырэкцыя Дзяржаўных лясоў у Беластоку.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

## Засталіся адно ўспаміны (50)

Зубава, што знаходзіцца зараз у Бельскай гміне, даўней належала да грамады Пасынкі. Вёска немалая. Памятаю, што кінасеансы арганізавалі ў школе. Будынак школьны — драўляны. Глядзельная зала магла памесціць па супрацьпажарных правілах не больш чым сорак чалавек. Кіраўніком школы быў Янка Семянюк з Краснага Сяла. З першых пачаткаў мы з ім падружылі. Сімпатычны кавалер, сардэчны кампаньён. Калі мы заязджалі з кінаперасоўкай, дык летам перад сеансамі часта гулялі разам у валейбол на школьнай пляцоўцы. З арганізаваннем школьнікам ранішнікаў не было праблемы. Прысутнасць на вячаровых сеансах, як і школьнікаў на ранішніках, заўжды была значная. Таму мы ў сяло заязджалі штомесячна. Сімпатычныя адносіны ладзілі мы з вясковай моладдзю. Памятаю, што аднойчы Вязоўскі запрасіў нас на святочны пачастунак арганізаваны з нагоды Каляд. Калі кампанія сядала за стол, дык з панадворка пачуўся гучны вокліч «гарыць, гарыць...». Недзе пры канцы сяла лунала полымя пажару. Гарэла стадола. Не памятаю зараз, чым гэта закончылася. Пасля адно даведаўся, што ў Зубаве спрадвеку доўжылася звычка нясення помсты на суседзях шляхам падпальвання.

З Зубава пераязджалі мы ў суседняе Кожына. Сяло раздзялялася на дзве часткі — Кожына Малое і Кожына Вялікае. Фільмы паказвалі ў мураваным будынку школы на калідоры. Прысутнасць публікі была памяркоўная. Несімпатычны ўспамін захаваўся з гэтай вёскі. Аднойчы на вячаровым кінасеансе ўзнік скандал. Нехта з гледачоў закурыў папяросу. Калі я звярнуў увагу прахадзімцу, дык узнікла спрэчка. Курэц згасіў папяросу. Неўзабаве пасля гэтага інцыдэнту, калі шафёр ішоў у машыну, якая стаяла пад раскідзістым дрэвам, нехта з калком накінуўся на яго. Скепка паспеў адной рукою закрыць галаву, як пачуў востры боль у локцевым суставе. Нападаючы хуценька скрыўся ў цемрадзі. У Кожыне мы мелі аднаго спрыяльнага чалавека — Кастуся Вязоўскага. Ягоная жонка была настаўніцай, а ён працаваў у Бельску-Падляшскім інструктарам навукі язды. Калі мы яму расказалі пра выпадак, дык Кастусь абяцаў высветліць справу. Але на абяцанцы адно скончылася. Пасля гэтага здарэння я выкрасліў Кожына з маршруту.

З Кожына маршрут быў прапісаны ў Страблю. Святліца знаходзілася непадалёк чыгуначнай станцыі. З таго, што прыпамінаю, дык мы нядоўга там заязджалі. Публікі няшмат прыходзіла і ранішнікаў не арганізавалі. Прыбытак быў невялікі. Запамятаўся мне сталы глядач са Страблі, мясцовы ксёндз, наш супольны кампаньён па валейбольных гульнях.

Да канца аповеду засталося наведаць мне чатыры вёскі: Кнаразы, Паўлы, Давідавічы і Цялушкі. Але гэта ўжо наступным разам.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

## Яшчэ адна святліца

У вёсках Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета прыгожыя святліцы першнаперш драўляныя. Яны найлепш дапасаваныя да тутэйшай вясковай архітэктуры і пушчанскага краявіду. Такія прыгожыя вясковыя дамы культуры ёсць, між іншым, у Ахрымах, Гушчэвіне, Міхнаўцы, Нараўцы, Новым Масеве, Плянце, Семяноўцы і Тарнопалі. Некаторыя з іх з ганачкамі. Пабудавала іх гміна.

Зараз ужо гатовая да здачы ў карыстанне святліца ў Скупаве. Былы войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч з гэтай мэтай купіў тамашні будынак закрытай крамы ГСа і зрабіў вялікі рамонт (між іншым, мураваныя сцены маюць драўляную шалёўку). Зараз будынак прыгожа выглядае звонку. Святліцу неўзабаве адкрые новы войт Яраслаў Галубоўскі. Жыхары Скупава цешацца, што будуць мець сваю святліцу на культурна-забаўляльныя і іншыя мерапрыемствы.

**(яц)**

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

# Яўрэі і беларусы

## - нязручныя ў гісторыі сакольскіх мястэчак

*Размова з **Рыгорам Рыжэўскім** — аўтарам кніжкі пра гісторыю Сухаволі.*

**Уршуля Шубзда: — Першы раз Сухаволя ў пісьмовых крыніцах згадваецца ў 1599 годзе як вёска, акружаная пушчай. Хаця Сухаволя гэта сёння цэнтр гміны, усё-такі доўгі час Хадароўка была больш значным населеным пунктам на гэтай тэрыторыі. Чаму зараз маем вёску Хадароўку і горад Сухаволю?**

**Рыгор Рыжэўскі:** — Так, першыя пісьмовыя крыніцы гавораць нам аб 1599 годзе і гэта дакумент, які не датычыў Сухаволі, але суседняга Краснага Бору, калі яго ўласнік Адам Храптовіч згадвае, што ўжо існуе Сухаволя. Каланізацыя праходзіла па загадзе караля, які будаваў двор і гэты двор вёў каланізацыю тэрыторыі, якая яму падлягала. Былі асобы адказныя за тое, каб тут пасяляліся адпаведныя людзі, каб надзяляць іх зямлёй. Пазней гэтыя людзі мелі свае абавязкі адносна двара — напрыклад, плацілі падаткі. Першым дваром на тэрыторыі гміны Сухаволя быў двор у Хадароўцы. Вельмі доўга, да канца XVIII стагоддзя, гэтыя землі падлягалі хадароўскаму ключу. Таму першы касцёл быў пабудаваны ў Хадароўцы і першая парафія ўзнікла таксама ў Хадароўцы. У скарачэнні — першым арганізатарам на гэтых землях быў двор у Хадароўцы. Тут, што таксама з'яўляецца цікавінкай, бывалі каранаваныя асобы, напрыклад, Ян III Сабескі. Гэта быў важны двор і ён ахопліваў землі аж да Бобры.

**— Ці пра Сухаволю як горад можна гаварыць з часу, калі там пасяліліся яўрэі?**

— Так, так было. Я па сённяшні не разумею некаторых гісторыкаў, якія не адрозніваюць асноўнай рэчы, а дакладней тэрыторыі Кароны і зямель, якія ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага. Сама Сухаволя і землі на ўсход ад Сухаволі ўвесь час уваходзілі ў склад ВКЛ. У нас, на тэрыторыі ВКЛ, узнікла прамежкавая форма паміж горадам і вёскай. Мой вялікі настаўнік прафесар Станіслаў Александровіч называў яе мястэчкам. Мястэчка не мела свайго самаўрада, бургамістра, герба, але выступалі тут гарадскія функцыі.

**— Такі штэтл?**

— Не да канца, бо мястэчка магло існаваць і без яўрэяў.

**— Аднак горадам называлі менавіта гэтую частку Сухаволі, якую насялялі яўрэі. Ці так?**

— У гэтым выпадку так, бо выступалі тут гарадскія функцыі. Якія? Гандаль, рамёствы, абслуга жыхароў вёсак. Менавіта яўрэі ў ВКЛ выконвалі абслуговую ролю. Яны не маглі займацца земляробствам, арганізавалі гандаль, таму ўсе гарадскія функцыі ажыццяўлялі яўрэі. У Сухаволі пазней былі кірмашы, на якіх адбываўся гандлёвы абмен, але не хапала асяродка культу. У Сухаволі ён паўстаў вельмі позна, а самі яўрэі былі ў ліку фундатараў сухавольскага касцёла, бо хацелі ў Сухаволю сцягваць людзей. Менавіта тады, калі Сухаволя атрымала дазвол на кірмашы, кароль назваў гэтую частку, дзе жылі яўрэі, гарадком. Яўрэі атрымалі месца на кіркут, дасталі прывілей на вытворчасць гарэлкі, заснаванне бровараў. У хадароўскім ключы не было такога месца, ані такога насельніцтва, якое магло гэтым займацца. Яўрэі пачалі пасяляцца ў Сухаволі пасля Паўночных войнаў і тады пачала развівацца Сухаволя. Дакумент з 1713 года, гэта той дакумент, які пацвярджае гарадскія функцыі Сухаволі.

**— Чаму Ваша кніжка пра гісторыю Сухаволі канчаецца на 1939 годзе?**

— Я крыху пішу аб гэтым у маёй новай кніжцы, якая неўзабаве выйдзе друкам. Аднак, на маю думку, гэта яшчэ замала даследаваная тэма, каб адназначна пра яе пісаць. Тым больш, што я не спецыяліст па XX стагоддзі. Займаюся ранейшымі эпохамі. Я не хацеў кранаць дыскусійных тэм і ўваходзіць у так цяжкую гісторыю.

**— Тым больш, што Ваша кніжка выйшла з нагоды 300-годдзя Сухаволі — раднага юбілею.**

— Кніжку я напісаў жыхарам Сухаволі. Мяне самога нервавала праблема з вызначэннем даты местачковасці Сухаволі. Трэба было паясніць, што такое гарадок, чым былі поўныя гарадскія правы... Вось, існуе каралеўскі дакумент ад 1713 года. Іншых не было! У 1713 годзе Сухаволя была названа мястэчкам.

**— Неўзабаве мае выйсці Ваша супольная кніжка пра гісторыю Сухаволі і Кальварыі, што на Літве. Як вядома, гэта працяг супрацоўніцтва, дзякуючы якому ў Сухаволі паўстаў Цэнтр трох культур. Як будзе выглядаць кніжка?**

— Маёй задачай з'яўляецца напісанне гісторыі гміны Сухаволя. Зараз мне ўдалося разгарнуць некаторыя тэмы. Думаю, што для жыхароў Сухаволі цікавымі будуць змешчаныя ў кніжцы спісы жыхароў.

**— Які будзе загаловак кніжкі?**

— Першапачатковая версія загалоўка — «Сухаволя — горад трох культур». Я падзяліў нашу Сухаволю на тры часткі — тры культуры. На пачатку апісаў найстарэйшую культуру — хрысціянскую, пазней яўрэйскую, якая адыграла вялікую ролю. А на канец — татарскую, гэта была найменшая супольнасць.

**— Раней, калі размаўляла я з бургамістрам Сухаволі Міхалам Матыскелем, або працаўніком Цэнтра трох культур Давідам Гудэлем, таксама не пачула слова пра беларускую культуру. Разумею, што Вы таксама ўкінулі яе ў хрысціянскую?**

— Тут узнікае праблема. Мы часта глядзім на мінуўшчыну праз прызму сённяшняга дня. Сённяшняя нацыянальная свядомасць, нашы маральныя ацэнкі хочам перакладаць на гэта, што адбывалася дзвесце гадоў таму. Вядома, што нашы продкі ў Хадароўцы размаўлялі на беларускай гаворцы. Аднак іхні каталіцызм, бо на тэрыторыі гміны Сухаволя не было царквы...

**— ...пішаце ў сваёй кніжцы, што верагодна была ў Карповічах?**

— Так, але калі была, то вельмі рана — недзе ў XVI стагоддзі. У мужыкоў позна сфарміравалася нацыянальная свядомасць. Мне здаецца, што на нашай тэрыторыі яшчэ да ранняга XIX стагоддзя існавала перакананне аб тутэйшасці. Значыць, я — тутэйшы католік. А вера адыгрывала аграмадную ролю. Цар падзяліў людзей на забраных землях: католікі — палякі, праваслаўныя — беларусы або расіяне. Людзі палічылі, што паколькі яны католікі, тады напэўна палякі. Першы перапіс насельніцтва 1921 года ў гміне Сухаволя выказаў амаль адных палякаў, якія гавораць на дыялекце беларускай мовы. Цікавая справа, што рака Бярозаўка па сёння з'яўляецца моўнай і культурнай мяжой.

**— Дзякую за размову і чакаю кніжку.**

**Рыжэўскі Рыгор** — гісторык, галоўны спецыяліст у Нацыянальным інстытуце спадчыны, даследчык гісторыі Падляшша і Вялікага Княства Літоўскага. Аўтар 11 кніжак, дзясяткаў артыкулаў, прысвечаных гісторыі, помнікам і культурнай спадчыне. У 2017 годзе выйшла яго кніжка „300 lat miejskości Suchowoli: zarys dziejów miasta do 1939 roku" («300 гадоў местачковасці Сухаволі: нарыс гісторыі горада да 1939 года»). Член праўлення Таварыства аховы помнікаў у Беластоку, віцэ-старшыня Фонду аховы помнікаў «На рубяжы».

# Грузія — мая любоў (заканчэнне)

*Zasiedliśmy przy stole nad kawałkami słoniny (teraz zacząłem się zastanawiać, co na Boga działo się z resztą zabitej świni) i kubkami z czaszą (...)* **Tony Anderson, Proch i chleb. Wędrówki przez góry Gruzji.**

Англійскі пісьменнік і падарожнік хадзіў па гарах Грузіі ў бурныя і бедныя 1990-ыя. Сустрэчныя пастухі і жыхары горных вёсак частавалі яго чым мелі, найчасцей сырам і салам. А канкрэтна пра гэтае сціплае застолле пісаў яшчэ і ў злосці, бо ягоную кампанію ноччу напалі сваны, парэзалі палаткі і — пагражаючы нажамі ды пісталетамі — абакралі. Гэта быў, дарэчы, адзіны такі выпадак, які з ім здарыўся, а час на Каўказе быў вельмі неспакойны.

Мы па Грузіі ездзілі дваццаць гадоў пазней і магу з поўнай адказнасцю запэўніць, што на падкантрольнай Тбілісі тэрыторыі (памятайма, што чвэрць Грузіі адарвала Расія і стварыла там непрызнаныя практычна нікім кішэнныя дзяржавы: Абхазію і Паўднёвую Асецію) бяспечна. Нягледзячы на тое, што, па еўрапейскіх мерках, гэта надалей небагатая краіна, то чым як чым, але кухняй можа паспяхова спаборнічаць з Францыяй, Італіяй ці Тайландам. У адрозненні ад Тоні Андэрсана, сала — хаця ў прынцыпе мы былі б не супраць — нам там есці не прыйшлося. Затое чачу, то-бок пякучую вінаградную самагонку, пакаштавалі некалькі разоў з прыемнасцю. Бывае, што сустракаюць ёю гасцей уладальнікі невялікіх сямейных гатэляў.

* * *

Каха, гаспадар пансіёна ў Кутаісі, падвёз нас да пешаходнага Белага моста і паказаў на даволі сціплую кавярню на рагу з незвычайнай для гэтага месца іспанскай назвай *El Depo: Тут найлепшыя хінкалі не толькі ў Кутаісі, але і ў цэлай Грузіі*. Так-так, мы ўжо ведалі, што ў кожнага грузіна мусіць быць нешта самаесамае, яго вёска найстарэйшая, рэгіён найпрыгажэйшы, віно найсмачнейшае і гэтак далей. Спрачацца ж у гасцях не будзеш. Таму паслушна, хоць і без вялікіх спадзяванняў, пераступілі парог кафэшкі. Амаль усе столікі былі занятыя, прычым звычайнай такой публікай проста з вуліцы. Шмат было моладзі, якая аб'ядалася кебабам, запіваючы яго півам або папулярным салодкім ліманадам. Хінкалі чакалі нядоўга, скрачаючы час мясцовым чорным віном. Добра, што раней прайшлі інструкцыю Малхаза, як есці гэтыя вялікія калдуны, напоўненыя мясным фаршам і далікатным, пахучым спецыямі булёнам. Інакш *El Depo* пакінулі б у моцна заплямленай вопратцы. Фарш як фарш, але цеста было выдатнае, вельмі тонкае, прыйшлося яго надзвычай асцярожна надкусваць, каб не разарваць і не разліць булёну на штаны ці кашулю. Збольшага ўдалося.

Ніяк не магу запамятаць, колькі складак павінен мець адзін піражок хінкалі. Здаецца, што кухары сталі менш строга гэтага прытрымлівацца. Не мяняецца адно — хінкалі трэба есці рукамі і пакідаць на талерцы завязку з цеста, за якую яго трымаем.

Найбольш папулярная ежа ў Грузіі, не шашлык (*мцвадзі*), а хачапуры, інакш вялікі пірог, начынены сырам (у Сванетыі — мясам; завецца там кубдары). Можна яго вельмі хутка спячы, калі ў хату з'явіцца неспадзяваны госць. Нічога дзіўнага, што нават песні пра гэтую недарагую і сытную страву співаюць. Адну з іх мы пачулі ў мястэчку Джвары на мяжы Сванетыі і Мінгрэліі ад хлапчука-гарэзы, калі разам з Іраклі Джулакідзе наведалі — неспадзявана, а як жа — яго бацькоў у зваротнай дарозе з Месты ў Кутаісі. Найбольш вытанчаным лічыцца хачапуры з Аджарыі — *аджарулі хачапуры* — падоўжасты бы лодачка, з разбітым усярэдзіне напаўсырым яйкам. Есці яго таксама трэба ўмець, каб з аднаго боку не абпырскацца, а з другога — не дапусціць, каб яйка астыла.



У Кахі ў Кутаісі не толькі можна пераначаваць, але і добра пасядзець з гасцінным гаспадаром



Джанджолі



Імерэцінскі хачапуры

Халодныя закускі ў Грузіі таксама выдатныя. Перш-наперш пасты з баклажана і грэцкіх арэхаў, пасыпаныя фруктажамі граната. Або мясцовая зеляніна з пахучым *тархуном* — каўказскім відам эстрагону, які дабаўляецца таксама ў ліманад (адна са слаўных *водаў Лагідзе* мае зялёны колер і смак тархуна). Я абагаўляю грузінскі салёны гарнір, а першае месца сярод так падрыхтаванай гародніны і садавіны займае падобная на кветкі акацыі *джанджолі* (па-польску *kłokoczka*). Практычна да ўсяго падыходзіць слівачны соўс *ткемалі*, які кожны грузін робіць дома, таму на рынку прадаецца ў бутэльках па кока-коле ці баржомі. Яшчэ адзін соўс мне запамятаўся: *сацывi*. Гэта сумесь грэцкіх арэхаў, карыцы, шафрана, часнаку, кінзы і перцу. Так сама называецца курыца або індык у гэтым соўсе. Ядуць гэтую страву халоднай.

Найлепшая гарачая курыца, як па мне, *шкмерулі*. Рыхтуюць яе на першы погляд проста: разразаюць курыцу на некалькі вялікіх кускоў разам з косткамі, кідаюць у малако з часнаком і вараць. Потым душаць на чыгуннай патэльні са спецыямі аж прыпячэцца. Увесь цымус у тым, каб ведаць, колькі часу варыць, а колькі тушыць, ды колькі чаго туды дабавіць. Адно пэўнае, заранёў яе падрыхтаваць не можна, таму калі заказваем *шкмерулі*, даводзіцца пачакаць каля гадзіны.

Мы так чакалі летам 2016 года ў бары ў адным з мікраараёнаў Кутаісі. Завёз нас туды Вахтанг, сябра і заадно кіроўца Іраклі. Тым часам падсеў да нас падпіты мужчына з цыгарэтай — аказалася, гаспадар гэтага месца. Слова за словам і не толькі расказаў нам пра сябе і сваю сям'ю, але і пазнаёміў нас з цэлай абслугай гэтага месца. Аліну завёў на кухню, дзе кухаркамі былі яго жонка і братавая. Варта было слухаць расказы і глытаць на змену чырвонае віно і тытунёвы дым!

*Шкмерулі* раставала ў роце, мяса лёгка аддзялялася ад костак, прысмажаная скурка храбусцела на зубах. А які быў арамат! Смаката!

Год раней выпадкова папалі мы ў Тбілісі ў кафэ *Рача*. Спускаліся ўніз ад Святой Гары вуліцамі Нахілаўкі, калі раптам пайшоў дождж. Доўга не думаючы схаваліся ў першы адчынены падвал з шыльдай па-грузінску. Месца было магічнае. Хісткія драўляныя столікі без абрусаў на няроўнай цаглянай падлозе, за стойкай дзве лёгка падпітыя барменкі, якія вельмі слаба разумелі па-руску. З залы праз вялікае арачнае акно было відаць кухню, пасярод якой стаяў вялікі кацёл, а каля яго драмала бабуля, уся ў чорным.

Ежа, якую мы бралі наўздагад з грузінскага меню, была танная і смачная. І не горшае хатняе віно, якое налівалі ў пластмасавыя бутэлькі па мінералцы. Выйшлі мы адтуль настолькі сытныя і задаволеныя, што нават не пацікавіліся назвай месца.

Якое было наша здзіўленне, калі праз нейкі час пабачылі дакладна наш столік у кніжцы Анны Дзевіт-Мелер і Марціна Мелера „Гаўмарджос". Дзякуючы гэтаму даведаліся назву бара і ўстанавілі яго адрас. На жаль, мала нам гэта дало, бо *Рачу* зачынілі. Доўга грэліся мы надзеяй, што толькі на рамонт, але прайшлі два гады, а будынка ніхто так і не рамантуе. А калі працэс пойдзе, баюся, што будзе там ужо нешта іншае.

* * *

У Кутаісі мы вярнуліся за дзень да вылету. Якраз, каб няспешна пахадзіць знаёмымі вуліцамі, узабрацца да адбудаванага з руін сабора Баграці і тое-сёе прыкупіць на мясцовым базары. А за мною ўвесь час хадзіў смак таго *шкмерулі*. Зноў жа, як і ў Тбілісі, не ведалі ні назвы бара, ні вуліцы, ні нават мікраараёна. Тэлефаную Іраклі. Праз дзесяць хвілін адзваньвае і дае поўную інфармацыю з указаннямі, як туды трапіць.

Пазнаем месца ўжо на падыходзе. Усярэдзіне менш народу. Сям-там відаць надпісы з перакрэсленай цыгарэтай. Той сам гаспадар — цвярозы і пабрыты — абрэзвае нейкія кусты пад плотам. Так сама як і за першым разам няма раздрукаванага меню. Пытаем пра шкмерулі. Ёсць. Заказваем і чакаем, прыкусваючы лаваш з пастамі, сыр і салёную гародніку. Урэшце прыносяць... курыца не ў малацэ, а ў нейкім празрыстым расоле... Відаць, менш каларычная. Смачная, не скажу, але... каб жа я не еў яе там раней...

**Мікола ВАЎРАНЮК**
**Фота Аліны ВАЎРАНЮК і аўтара**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


## Конкурс на 100 год БНР — мой герой беларус!

# Яна вярнула мне радасць жыцця!

Я не памятаю як яе завуць, але гэта для мяне важная асоба, мая гераіня.

Некалькі гадоў таму я была вельмі хворая. У мяне пайшло запаленне правага і левага вуха. Лекар прыпісаў мне лякарствы, але яны не дапамаглі. Стан майго здароўя пагоршыўся і я трапіла ў бальніцу. Калі мяне там абследавалі, сказалі што я аглухну.

Я вельмі баялася.

І тады з'явілася пані доктар, якая сказала, што мяне дрэнна лячылі і я павінна трапіць сюды значна раней. Праз тыдзень у мяне была аперацыя, якая прайшла паспяхова. Найлепшая ў свеце доктар выразала ў маіх вушах гэтак званыя «кішэні».

Я вельмі ўдзячная спадарыні лекарцы, бо яна вярнула мне здароўе і радасць жыцця. Цяпер я чую, што шэпча мне на ўроку сяброўка.

**Наталля КІНДЗЮК,**
7 клас, ПШ у Нараўцы



**Наталля КІНДЗЮК**
Лешукі, ПШ у Нараўцы

### Вучань

Вучань — як зерне,
Вырастае,
Развівае свае кветкі.
З іх калісьці будзе садавіна.
Але калі будзеш збіраць плады,
Звяне і будзе кусочкам зямлі.

### Ліст

Ліст на дрэве,
Чалавек на зямлі.
Ліст каляровы,
Чалавек вясёлы.
Ліст чорны,
Чалавек нягодны.
Ліст ападае,
Чалавек лятае.
І толькі тым адрозніваемся,
Што лісток ападае, а чалавек памірае.

### Сям'я

Мая сям'я гэта мая сіла.
Калі хтосьці клопат мае,
Усім сэрцам яму дапамагае.
Адразу паможа, суцешыць.
Мы моцна трымаемся за рукі
І не будзе ў нас разлукі.

# Радасць ад супольнай гульні



Час, калі стары год пераходзіць у новы, напоўнены новымі марамі, планамі, новымі спадзяваннямі. Тады выказваем пажаданні блізкім і любімым сябрам. У эйфарыі шчасця абдорваем іх падарункамі, ставім ім прапановы, даем абяцанкі...

Цягам мінулага тыдня мы атрымалі шмат пажаданняў і прыгожых карцінак. Найперш ад верных чытачоў і ўдзельнікаў конкурсаў. Часткy загадак, рэбусаў і моўных адгаданак дасылаюць самі вучні. Пасля іх рашаюць у школах і ўдзельнічаюць у чарговых жараб'ёўках з узнагародамі. Часта нашу рэдакцыю падтрымліваюць спонсары (бацькі, беларускія арганізацыі, сябры) за што ім выказваем — Шчырае Дзякуй! Радасць ад супольнай гульні — бязмерная...

Вось вучні з Орлі, якія цягам апошняга года пачалі актыўна супрацоўнічаць з рэдакцыяй, даслалі здымак класнай ёлкі. Пад ёй, — а як жа, — паклалі ўзнагароды ад «Зоркі». Такія прыгожыя моманты падымаюць творчы дух нашай рэдакцыі і актыўнасць чытачоў.

Дзякуем сябры!

**ЗОРКА**

## УВАГА КОНКУРС! № 01-19

**З грывай, а не конь,**
**З рагамі, а не бык,**
**З барадою, а не казёл.**
**Гучна-гучна зароў**
**Цар пушчанскіх звяроў.**
**З...**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 20 студзеня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 49-2018: елка. Узнагароды, наклейкі, выйгралі Ніколя Конік, Габрыела Кіяшко, Аня Харытанюк з Шудзялава, Караліна Кандрат з Нараўкі, Аляксандра Аніськовіч, Аляксандра Якімюк з ПШ № 1 у Гайнаўцы, Дам'ян Дмітрук, Сара Марціновіч, Дам'ян Даліна-Суліма з Орлі, Іаанна Нікіцюк з КШ № 3 у Бельску-Падляшскім. Віншуем!**

Гэтую будоўлю ведаюць усе вучні ў Польшчы і ў Беларусі.

Мова пра Мірскі замак. Сёння гэта адзін з найбольш вядомых турыстычных атракцыёнаў Беларусі, занесены ў спісак ЮНЭСКА. Мірскі Замак спалучае ў сабе рысы готыкі, барока і рэнесансу. Яго славу ў вялікай меры збудавалі князі Радзівілы і апошні ўласнік, князь Мірскі, вялікі эксцэнтрык і музейнік. Яшчэ ў пачатку XX стагоддзя ён пачаў ствараць у мурах гістарычнай будоўлі Музей асаблівасцей.

Задуму князя прадоўжылі сучасныя жыхары Беларусі. Сёння ў замку працуе гістарычны музей, шмат там разнавіднай зброі, старажытных прылад і гістарычных дакументаў. На месцы таксама можна заначаваць у гасцініцы, наладжанай у частцы замка. Месца ахінутае легендамі ад заўсёды выклікала цікавасць літаратараў і мастакоў.

Менавіта — польскія вучні ведаюць Мірскі замак дзякуючы літаратуры. Замак сустракаем у нацыянальнай паэме Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш». Гэта сядзіба Гарэшкаў. Трэба вам ведаць, што ў часы Міцкевіча замак быў часткова зруйнаваны, але ён далей служыў грамадству. У мурах адбываліся шляхецкія з'езы і суды, у якіх прымаў таксама ўдзел бацька паэта, юрыст. Мы спадзяемся, што дзякуючы нашай падказцы вы нанова адчытаеце «Пана Тадэвуша». І зразумееце, які ён важны для беларусаў!

(гак)

# Мірскі замак



Мал. Алены Шалімы

*Віктар Шніп*

## БАЛАДА МІРСКАГА ЗАМКА

У Мірскім замку сёння светла,
У Мірскім замку сёння лета,
І лёт стралы, як лёд, растаў,
Бо замак сонечна паўстаў
На скрыжаванні ўсіх шляхоў,
На скрыжаванні ўсіх вятроў
У гэтым свеце, дзе ёсць мы
І нашы родныя дамы,
З якіх глядзім і бачым свет,
Які любіць нам і ствараць,
Нібыта замак будаваць
Сярод шляхоў, сярод вятроў,
Сярод разбураных муроў,
Што баранілі нас, каб мы
Сярод агню, сярод зімы
Свой мелі шлях, свой мелі сцяг
І роду слаўнага працяг
На скрыжаванні ўсіх шляхоў,
На скрыжаванні ўсіх вятроў,
Як Мірскі замак, не знікаў.
І часу лёт, як лёд, сцякаў
На гэты край жывой вадой,
Каб мы сустрэліся з табой
У Мірскім замку ў гэты час,
Які стралой ляціць праз нас...

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Гняздзечка

Надаела ластаўцы хавацца ад паляўнічых і яна зляпіла гняздзечка пад страхой. Добра і ўтульна жылося б ёй у гаспадара, калі б не адна бяда...

«Што за бяда такая?», — падумаеце.

А вось занадзіліся мышы і сталі падбіраць маленькіх птушанят. І не было ад іх ратунку! Доўга думала ластаўка, як абараніць дзяцей, ажно прыдумала адзін спосаб.

— І што дапамагло? — спыталі ў ластаўкі птушкі.

— Як рукой адняць! Мышы больш не палезлі ў гняздзечка.

— А што яна такога прыдумала?

— А нічога! Яна ўзяла валасок ад кошкі і паклала ў сваё гняздо.

— Ды што, хапіла аднаго валаска?

— Гэтага хапіла! Мышы не пераносяць кашэчага паху. А ён вельмі моцны ў валасах, пёрах, шэрсці. Не верыце? Тады панюхайце свае валасы.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

# Польска-беларуская крыжаванка № 1-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 49-2018:**

Зебра, смех, тыгр, змова, кракадзіл, двор, ура, аказ, Ас, каларыт. Звер, квас, зрок, марак, ток, за, дыван, гад, мір, зубр, вір, баласт.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выгіралі **Наталля Касцюк, Вікторыя Залеўская** з Орлі, **Аляксандра Бакун** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Марыся Якімец** з Залук, **Аляксандра Каліноўская** з Нараўкі, **Іаанна Нікіцюк, Вікторыя Семенюк, Юля Ваўтанюк** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім, **Сара Дарпенская, Мая Тапалянская** з Нарвы, **Галена Шумарская, Малгажата Селеванюк** з ПШ № 4 у Гайнаўцы, **Кінга Рамазэвіч** з Шудзялава. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Ogon | Szlafrok | | | Taras | Sukces | |
| | Chata | Kto | | | | | | | |
| | | Koszyk | | Pragnienie | Lodowisko | | As | | |
| | Ty<br>Przecinek | | | | | | | Nora | |
| Kosmos<br>Zupa | | | | | | | Nie | | |
| | Etat | | | | | | As | | |
| | | | Duma | | | | | | Ach! |
| | Kudły | | | | | Sad | | | |

# Каляды ў Тапарках

Размова з **Віталем СОХАМ**, 1949 года нараджэння з Тапаркоў.


Фота Міхала МІНЦЭВІЧА

**— Як Вы запамяталі Каляды перыяду свайго дзяцінства?**

— Дзень перад калядой (вігіліяй), бацька ішоў у хлявы і вытрасаў салому з сеннікоў. У нашай хаце былі два такія ложкі з сеннікамі. Напіхалі свежай саломай, а маці льняной ніткай зашывала сяннік. А як пахацела саломай у хаце! Спалі на саломе, а падушкі былі з курынага пер’я, бо гусінае пер’е было для нарыхтоўкі дочкам пасагу. А мне мама не паспела зрабіць пасцелі, бо памерла 25 студзеня 1982 года, а бацька 15 ліпеня 1985 года. Страў на куццю рыхтавалася многа. Трэба было прынесці ў хату снапок жыта і паставіць у куце.

(Сноп буйнога калосся, які яшчэ дзе-нідзе заносяць у хату, абазначае, што Бог нарадзіўся ў Віфлееме — горадзе хлеба, а таксама што Бог становіцца не толькі чалавекам, але і хлебам. Абрад гэты змяшчае ў сабе глыбокі сэнс, сведчыць пра важнасць хлеба ў нашай культуры. Таму трэба прывіваць нашым нашчадкам пашану да хлеба нашага штодзённага — М. М.)

Пад абрус клалі сена, а да таго ж яшчэ клалі капічку сена пад стол. (Сена нагадвае нам убоства віфлеемскай пячоры і Марыі, якая паклала народжанае Дзіцятка на сена ў яслях — М. М.)

Бывала, што акурат на Руздво і авечкі каціліся; у хляве было невыносна холадна. Тады забіралі авечку ў хату „пад стол”. Так было! Некалькі дзён авечка з ягнятамі была ў хаце.

**— Былі падарункі?**

— Не было.

**— Калядавалі?**

— Калядавалі і ў Тапарках, і хадзілі ў іншыя вёскі. Вечарам ішлі па ўсёй вёсцы, хата ў хату, а было ў нас восемдзесят хат. У шматлікіх сем’ях было многа дзяцей да 18 гадоў; было па 10, 9 ці 6 дзяцей. У нас было сямёра дзяцей. І цяпер ходзяць калянднікі, так з пяць пар.

**— А калі Вы асталіся сам дома, як праводзілі Каляды?**

— Трэба было ёлку ўпрыгожваць. А я сам быў дома, і ў краме. Трэба было ісці і прадаваць рыбу, бо я быў уладальнікам і прадаўцом. Трэба было і людзям дагадзіць і, вярнуўшыся познім вечарам, сабе ёлку ўпрыгожыць. Стаўляю ёлку штучную і штогадова яе ўбіраю. Але на свята забірае мяне сям’я ў Нараўку, адкуль вяртаюся на другі дзень Каляд; мяне ўжо там знаюць. Там іду ў царкву на вячэрню да бацюшкі Сурэля; нядаўна бацюшка з матушкай адзначалі саракагоддзе службы.

**— Ці ў Тапарках людзі аздабляюць святочным асвятленнем панадворкі, дамы?**

— У мінулым годзе было толькі шэсць такіх. Людзі старэюць. На сваім доме склаў я з лямпачак літары „РХ”; кабелі астаюцца і ўлетку. А калі некуды выязджаю, то прашу суседа, каб уключаў нанач і выключаў удзень.

**— Якія сёння Тапаркі?**

— Зараз ёсць 75 асоб, а калісь было трыста жыхароў, восемдзесят хат. А зараз 26 хат пустуе. Адну з іх купіў на лета варшавяк, насупраць мяне. Дае мне ключы да хаты, а я апякуюся панадворкам. Другі купіў пры канцы вёскі.

**— Некаторыя гміны ладзяць куццю адзінокім, я сам быў задумнікам і ініцыятарам такога мерапрыемства ў Арлянскай гміне...**

— Запрашалі мяне ў Кляшчэлі, але ад двух гадоў куццю, не толькі адзінокім, арганізуем мы самі ў Тапарках. Сустракаемся крыху пазней. Год таму было нас каля трыццаці асоб — ад нас і пяць з Дабрывады, некаторыя з Кляшчэль і Рудут. Кожны штосьці нарыхтуе і прынясе. Пасля за сталом спяваем калядкі — на цэлую святліцу. Дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Орлі, спадарыня Анна Несцярук, надрукавала нам вялікімі літарамі розныя калядкі і мы іх спяваем. Хачу адзначыць, што з калектывам „Арляне”, дзе я выступаю, прадставілі мы сцэнку куцці, і яе знялі на кінастужку.

**— А ці нейкі бацюшка ўдзельнічае ў вашай куцці?**

— Прасілі мы манахаў, але ніхто не прыйшоў пасвяціць нашу вячэру.

**— Дзякую за размову.**

Размаўляў Міхал МІНЦЭВІЧ

# Нядзеля ў Беластоку

У нядзельную раніцу шэрага пахмурнага снежня Янку не хацелася ўставаць, але жонка, якая яго разбудзіла, заявіла, што мае паўгадзіны на тое, каб выпіць каву, з’есці сняданак і пайсці ў царкву.

— Як хочаш, але не буду чакаць цябе.

Янка дасканала ведаў, што яго прыгожая, разумная жонка як заўсёды падумала аб усім. На стале чакала пахучая кава, духмяныя піражкі з сасіскамі, якія ён усе з’еў, затым апрануў новы касцюм, чаравікі, паліто і шапку.

Традыцыйна кожную нядзелю ішлі моўчкі ў царкву. Уваходзячы ў царкву, прапусціў першай жонку, а пасля Сціплую Адвакат — зямлячку, якая стрыманай усмешкай прывіталася з ім. Жонка пайшла купляць свечкі, а ён стаяў у доўгай чарзе да іконы. Пасля жонка далучыла да яго і стала перад ім. Калі пакланіліся і пацалавалі ікону, жонка пайшла ставіць свечкі, а яго позірк мінуўся з Праваслаўнай Студэнткай, якая паслала яму спакуслівы позірк з нясмелай усмешкай. Ён дасканала ведаў, што гэта значыць, паколькі ад гэтых нясмелых усмешак пачыналіся тысячы нявінных фліртаў, пра якія ведала яго жонка, але гэтым разам яна гэтага не бачыла. Ідучы на месца, дзе стаяць, падаў руку Мікалаю Гушчыку, ягонаму найлепшаму сябру з Аб’яднання апошніх магікан. Стаў пару метраў ад Праваслаўнай Студэнткі, углядаючыся ў яе зграбны стан. Вока Янкі перанеслася на алтар, дзе Вождь Народов — настаяцель храма айцец Аляксандр Шэшка ўзносіў высока рукі, а разам свой высокі тэнар. Янка думаў, што сёння не пойдзе да споведзі, таму што ўчора да позняга вечара выпіваў з Андрэем, сваім равеснікам. З ім у суботу святкаваў дзень святога Андрэя, які прадоўжыўся з чацвярга да суботы. У суботу Андрэй прызнаўся яму з граху, што трахнуў дзве на раз студэнткі — адну 21 год, а другую — 25. «У маладых сіла!» — падкрэсліў Андрэй, якому як і Янку было пад сорак гадоў. «Молодёжь проебёшь», — заўсёды паўтараў Янка, які меў слабасць да маладых дзяўчат. Але Янка тым розніўся ад Андрэя, што ад часу, як пазнаў жонку, не трахаў дзяўчат, але меў шмат іншых грашкоў на сваім сумленні. Штодзень працаваў у транспартнай фірме сярод маладых жанчын, з якімі вёў нявінныя флірты, а ўсё пачыналася з позіркаў і ўсмешак, а канчалася тым, што маладая дзяўчына гаварыла «Але ты маеш жонку». Янка пра ўсё гэта думаў гледзячы, на Вождя Народов і ахінаючых яго бацюшкаў — суровага айца Сцяпана, у якога Янка не любіў спавядацца, лагоднага айца Пятра, які паўтараў «але гэта не грэх». Бракавала айца Андрэя, сівеючага чарнявага 50-гадовага бацюшкі, якому Янка даваряў усе грахі, а сёння яго не было. Янка ў айца Андрэя заўсёды спавядаўся па-нашаму і можа таму яго найбольш любіў, што паміж імі была нейкая нітка паразумення. Аднак сярод іх ад верасня бракавала айца Міколы, які памёр на Прачыстую ва ўзросце 95 гадоў. Айцец Мікола вельмі рэдка спавядаў людзей, але Янку прыйшлося быць у яго некалькі разоў так, што на ўсё запамятаў гэтага ціхмянага, пакорлівага і асабліва сціплага святара. І таму хаця Вождь Народов не ўспамінаў ужо айца Міколу, дык Янка ў памяці сваёй меў яго вечныя словы: «Ведаеце, многа жанатых гэтым грэшыць. Раю Вам больш чытаць тую а тую малітву а той і той псалом». І малітвы Янку часам ратавалі ад яго скрытых грашкоў. Пасля споведзі ў айца Міколы адчуваў як вялізны камень грахоў спадаў з яго плячэй. Дух айца Міколы, апошняга справядлівага, быццам дух белага птаха яшчэ вышэй узносіўся чымсьці высокі тэнар айца Шэшкі. У царкву ўвайшоў наймалодшы айцец Сільвестр. «Глядзі, прыйшоў Сільвестр, неўзабаве будзе Новы год!» — кінуў з усмешкай жонцы. «Дурак», — сказала жонка Янку і ціха рассмяялася. Янка думаў, што хаця ўжо пару месяцаў не быў у споведзі дык сёння таксама не збіраўся ісці. Мо таму, што не толькі еў сняданак або ўчора вечарам выпіваў з Андрэем, але проста не быў на гэта падрыхтаваны ў гэтую шэрую нядзелю снежня... Пасля прыслужнікі вынеслі аналой для Бібліі, якую здаровым басам прачытаў дыякан Пафнуцій. Пасля выйшаў на амвон Вождь Народов і пачаў гаварыць пропаведзь, адначасова захапляючыся «своим прекрасным русским словом». Янка аглянуўся назад і сустрэўся з позіркам Міколы Гушчука, які, міргнуўшы вокам, даў знак, што гатовы на вандроўку вакол царквы.

Моўчкі выйшлі з царквы, шпацыруючы ў час пропаведзі Вождя Народов. Размаўлялі пра свае літаратурныя справы, што вычыталі ў «Беларускім месяцы» ці «Нацыянальным аглядзе». Абодвух, як і Янку, так і Міколу, хвалявала тое, што абодва былі заўсёды на канцы хваста беларускай літаратуры. Журналісты бралі інтэрв’ю ва ўсіх пісьменнікаў, але не ў Мікалая ці Янкі, а старшыня Апошніх магікан літаратуры ўжо ад пару гадоў не запрашаў іх на аўтарскія сустрэчы. Спалучала іх пагарда да тых, што іх з’ядаў на канцы хваста беларускай культуры.


https://arch.um.bialystok.pl

— А ведаеце як друкую ў польскіх часопісах свае апавяданні дык і адразу нехта з рэцэнзіяй адгукнецца, а ў нас як гарохам аб сцяну.

— Ведай Янка адно, што ўсё гэта памрэ і прыйдзе час, што ўсе нашы газеты і радыёстанцыі, тэлеперадачы закрые польская ўлада. Да гэтага ўсё ідзе...

Нягледзячы, што Мікола быў ва ўзросце маці Янкі, дык яднала іх нянавісць да тых, хто іх з’ядаў, хто іх найбольш расчараваў сваім невуцтвам і пагардай. Абодва ад доўгіх гадоў былі ў забыцці, хаця абодва мелі выдадзены свае кнігі і цэлы час друкаваліся, дык дзеячам беларускай культуры было напляваць на іх дасягненні, талент, любоў да беларускай мовы. Янку цешыла, што Мікола выявіў, што працуе над паэмай, якой пачатак зачытаў з памяці, а Янка сказаў, што гэта прадказвае выдатны твор. Мікалай з увагай выслухаў як яго малодшы сябар працуе над раманам. «Як добрае дык палякі надрукуюць ды яшчэ ганарар за кнігу заплацяць, — абнадзейваў Янку Мікола. — А ў нас — запі вадою!» Абодвух яднала нянавісць да свету, які з болем паміраў у іх на вачах, а вінаватымі былі тыя, у якіх бралі інтэрв’ю на тэлебачанні ці на радыё. Абодва ўспаміналі як у 1990-я гады многа моладзі пісала на беларускай мове, а зараз усіх пішучых можна палічыць на пальцах аднай рукі. Гэта віна тых, хто закрывае перад намі дзверы.

У той час Вождь Народов закончыў сваю красамоўную пропаведзь і Мікола кіўнуў, што пара вяртацца ў царкву. Ізноў стаў пры жонцы Наталлі слухаючы «Иже херувимы», «Верую», «Отче наш». Падыходзілі да крыжа з жонкай. Выходзячы з царквы сустрэў Польскага Праваслаўнага Паэта, які як заўсёды марудзіў, што даўно не піша вершаў, таму што ніхто іх не чытае, а сам дасканала ведаў, што Польскі Праваслаўны Паэт пастаянна піша, друкуецца і мае аўтарскія сустрэчы. Заўсёды Янка праз зубы стрымліваў словы, якія хацеў сказаць Польскаму Праваслаўнаму Паэту, якія заставаліся ў яго думках: «Толькі не рабі з мяне дурня, я ўсё ведаю». Выходзячы з царквы сустрэў Вождя Украіны, дзеяча ўкраінскіх нацыяналістаў, які раздаваў газеткі, пішучы што з Украіны пачнецца Трэцяя Сусветная Вайна. Янка газетак не браў ад украінскага агітатара. Ішлі з жонкай дахаты. Размаўлялі пра абед і Пецю, сябру Янкі, які сёння ў іх будзе на абедзе. Пеця быў ціхім спакойным юрыстам, якога любіў і Янка і яго жонка Наталля. Хлопец хаця быў высокаадукаваны, меў сваю юрыдычную канцылярыю дык было яму пад сорак як і Янку і Наталлі. Пятро хаця жыў у Беластоку так як і яны дык не меў часу на сустрэчы таму, што быў надта заняты працай. Нядзеля была адзінай нагодай сустрэчы двух сяброў. Нядзеля аказалася вельмі цікавай.

Юрка БУЙНЮК

# ВІСКУЛІ

**Сарока-варона кашку варыла, дзетак карміла; гэтаму дала, гэтаму дала, а гэтаму не дала, — так гаворыць папулярная дзіцячая забаўлянка. Прывучае яна малы народ да спелага жыцця, дзе нешта даюць, дзеляць між сваімі дзеткамі бацькі-сарокі-вароны. Вось і „бацька народаў”, Іосіф Вісарыёнавіч Джугашвілі, які карыстаўся рэвалюцыйным прозвішчам Сталін, падзяліў паміж сваімі народамі выдзеленую яму іншымі сарокамі-варонамі тэрыторыю разам з яе насельніцтвам.**

Вось і ў нас пралягла мяжа з добрай ласкі „вялікага Іосіфа”. Падзяліла яна і Белавежскую пушчу. Як з усімі дзяльбамі бывае, падзяліла тая мяжа не пароўну, пакідаючы Белавежу з яе вакзаламі і ўсялякімі іншымі важнымі аздабленнямі на нашым, польскім баку. А сабе Сталін узяў маленька, сціпленька, так жа як і на свой мундзір не чапляў ён амаль ніякіх аздабленняў. Чаму так сталася, дакладна невядома і ўсялякія заўзятары гісторыі толькі здагадваюцца, толькі здагадваюцца...

На падмену Сталіну ў яго цяжкай працы па дзяльбе, па дыстрыбуцыі шостай ці трэцяй часткі зямной сушы, ступіў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў. Характарам ён быў крышку іншы чым Сталін: такі характар таксама дастаўся яму ў выніку нейкай ці то генетычнай, ці іншай дзяльбы. Паколькі Сталін амаль увесь час праводзіў у сваім бюро, ці сваім палітбюро, то ўжо Мікіта Сяргеевіч любіў пагуляць на прыродзе. У час гасціны Хрушчова ў Югаславіі, бадай у 1956 годзе, тамашні дзялок — мабыць апошняе слова выводзіцца ад слова „дзяліць” — Іосіф Броз, які карыстаўся рэвалюцыйным прозвішчам Ціта, запрасіў Хрушчова на паляванне ў свае лясы. Хрушчову, вырасламу ў строгі сталінскі час, так спадабалася тая распуста, што захацеў запаляваць і ў сябе, у сваім Савецкім Саюзе. Ды не абы-дзе, не ў якойсь звычайнай тайзе, а ў тых паляўнічых угоддзях, у якіх палявалі цары — ягоныя ранейшыя вярхоўныя папярэднікі.

Адным з такіх месцаў была Белавежская пушча. Ды вось з савецкага боку яна аказалася не надта нарыхтаванай да пабачанай у Ціта распусты. Знюхалі гэта бліжэйшыя Мікіце Сяргеевічу па іерархіі чыны, Булганін, Касыгін, Байбакоў, да таго ж і тыя, якім была даручана адмысловымі дзяльбамі і тэрыторыя Беларусі. І яны рашылі нешта такое, выгадненькае, стварыць і ва ўсходняй частцы Пушчы. Праца пайшла маланкавымі, стаханаўскімі тэмпамі і ўжо ў снежні 1957 года ва ўрочышчы Віскулі быў змураваны адмысловы паляўнічы павільён. Граніт для аснашчэння палаца завозілі з Урала і Каўказа. Побач меў быць узведзены цэлы палацавы комплекс, са стайнямі і рысорнымі карэтамі...

5 студзеня 1958 года завітаў у Віскулі сам Мікіта Сяргеевіч. Не без перыпетый. Крыху раней, перад самым прыездам высокага госця з чыгуначнай станцыі Аранчыцы каля Пружан, на дарогу, па якой меў ехаць Хрушчоў, павалілася векавая сасна. Ад такой прыроднай нагласці ў адносінах да ўладара магутнай дзяржавы, апошні ўскіпеў і загадаў расчышчаць Пушчу і будаваць у ёй дарогі. І тады самыя высокія мінскія чыны замітусіліся, сталі спешна састаўляць планы высечкі Пушчы стаханаўскімі тэмпамі. Але загадчыку пушчанскіх лясоў Уладзіміру Раманаву неяк удалося ўціхамірыць ускіпелага Хрушчова і ўжо на другі дзень ягоны пыл высечкі абсеў і нават пахваліў Раманава за ўзорную камуністычную стойкасць. А згаданыя чыны, якіх табельнай задачай была ахова Пушчы, яшчэ доўга гарачыліся за высечку...

Хрушчову мураваны палац не спадабаўся, ён нават у ім не пераначаваў; першую ноч начаваў ён у браніраванай машыне, на якой яго прывезлі з Аранчыц, а апошнія сем начэй сваёй першай пабыўкі ў Пушчы ён правёў у спецвагоне на той жа станцыі Аранчыцы. Да таго ўсяго змураваны стаханаўскімі тэмпамі палац яшчэ не ўспеў высахнуць і ўрачы параілі Хрушчову не начаваць у ім. І неўзабаве побач мураванага палаца было ўзведзена некалькі драўляных катэджаў, падобных на сялянскія хаты; яны прыйшліся Хрушчову па душы.

Паляванні высокіх гасцей заўсёды неслі ў сабе нешта анекдатычнае. Таму дазволю сабе і я працытаваць адносны фрагмент выдадзенай у Мінску ў 2009 годзе кнігі „Белавежская пушча”... „Парадак падчас палявання быў „жалезны”: ніхто не меў права стрэліць раней за першага сакратара. Калі ж падчас першага палявання Мікіты Сяргеевіча адзін з яго ўдзельнікаў А. Барысенка (з рэспубліканскага ўпраўлення запаведнікамі) дазволіў сабе стрэліць раней за знакамітага госця, то быў неадкладна адасланы К. Ц. Мазуравым [першым сакратаром ЦК КПБ] у Бярэзінскі запаведнік на падставе неабходнасці арганізацыі там палявання на мядзведзя. Больш удзелу ў паляваннях з першым сакратаром ён не прымаў. Тагачасны старшыня Савета Міністраў БССР Ц. Я. Кісялёў неяк распавядаў пра адно з паляванняў разам з М. С. Хрушчовым: „Стаю ў засадзе ў адным ланцугу з іншымі паляўнічымі, а да мяне такі кабан прыйшоў! — вуха як вядро. Я яму: — сыходзь, Мікіта яшчэ не страляў”. Відавочцы ўзгадваюць і іншы выпадак, звязаны з паляваннем Хрушчова ў пушчы. Неяк ён прыехаў на паляванне разам з маршалам С. К. Цімашэнкам і, стоячы побач з ім у адным ланцугу, убачыў выбеглую з лесу самку дзіка з 4 парасятамі. М. С. Хрушчоў ускінуў стрэльбу, але не стрэліў. Тады С. К. Цімашэнка крыкнуў яму: „Мікіта Сяргеевіч, ты чаго? Страляй!” Сам жа, аднак, таксама не стрэліў, пабаяўшыся гневу „гаспадара”. Але першы сакратар зусім апусціў стрэльбу і строга адказаў: „Дзяцей хіба страляць буду, маці тваю?! Я дзяцей не страляю!” Магчыма, пасля гэтага выпадку і з’явілася легенда аб дабрыні М. С. Хрушчова. Нібыта падчас аднаго з паляванняў у Белавежскай пушчы ў пачатку 1960 гг. хтосьці злёгку параніў яго ў руку. Перапуджанае акружэнне ўжо рыхтавалася да самай суровай расправы, але Мікіта Сяргеевіч распарадзіўся нікога не чапаць і ў той жа дзень з’ехаў у санаторый у Крым...”

Хрушчоў быў першым савецкім правадыром, які стаў паляваць у Белавежскай пушчы. Ён запрашаў сюды не толькі сваіх высокапастаўленых маскоўскіх таварышаў, запрашаў таксама і правадыроў васальных яму краін. Не ўсе яны былі меткімі стралкамі. Для прыкладу, усходненямецкі лідар Вальтар Ульбрыхт сотню патронаў выстраліў да качак і ніводнай не трапіў. А Хрушчову ўдалося аднойчы з трохстволкі палажыць адразу тройку дзікоў.

Хрушчоў бываў у Пушчы сем разоў, ягоны наследнік на высокай крамлёўскай пасадзе Леанід Ільіч Брэжнеў толькі тры. Паляванні апошняга, як чатырохкратнага героя Савецкага Саюза, прыносілі багаты плён. Брэжнеў заўсёды страляў з машыны. І паляваў ён да той пары, пакуль не скончыліся яму патроны або папяросы.



Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў пасля палявання

І яшчэ адна цытата са згаданай кнігі: „Што тычыцца апошняга Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова, то ён палявання не любіў, але ў Белавежскай пушчы ўсё ж паспеў зрабіць прыцэльны стрэл. Было гэта яшчэ ў бытнасць яго ў працы ў сельгасаддзеле ЦК КПСС. Ц. Я. Кісялёў, які сябраваў з ім, запрасіў Міхаіла Сяргеевіча на паляванне на дзіка. Былі створаны ўсе неабходныя ўмовы для паспяховага выніку: прыкормленыя да вызначанага месца вепручкі, абраная зручная для стральбы вышка. І хоць у аптычным прыцэле карабіна дзікі былі бачны як на далоні, неспрактыкаваны ў стральбе М. С. Гарбачоў не здолеў належным чынам прыціснуць прыклад да пляча перад стрэлам. З-за аддачы карабіна будучы рэфарматар атрымаў не толькі моцны ўдар у плячо, але і сіняк пад вокам ад удару аптычным прыцэлам. Таму некалькі дзён Міхаіл Сяргеевіч выглядаў, прама скажам, не зусім фотагенічна, даўшы зарок ніколі больш не паляваць. Слова ён стрымаў. Больш за тое, для ўсіх эколагаў свету ён атрымаў славу „зялёнага № 1”, стаўшы прэзідэнтам сусветнай арганізацыі „Зялёны крыж”, якая займаецца аховай дзікай прыроды. У гонар яго нават названы раней невядомы від дзікай архідэі, якая расце ў трапічных лясах Балівіі”. Гэта па-лацінску *Maxillaria gorbaschowii*...

У беларускай частцы Пушчы палявалі не толькі маскоўскія вярхоўныя чыны, палявалі ў ёй мінскія і крыху ніжэйшага рангу начальнікі. Першы сакратар ЦК КПБ Пётр Міронавіч Машэраў спачатку прыязджаў у Пушчу толькі дзеля адпачынку, але тамашнія егеры ўцягнулі яго ў паляўнічы азарт. І ён сапраўды захапіўся новай распустай. Яшчэ адна цытата: „Поспехі Пятра Міронавіча ў здабычы паляўнічых трафеяў былі вялікія. Так, толькі ў 1980 г. ён забіў у Белавежскай пушчы 18 дзікоў-секачоў, 14 самак і 6 аленяў-самцоў. У 1981 годзе атрымалася падстрэліць 22 дзікі-секачы, 1 казулю, 38 самак і 1 аленя-самца”. Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка паляўнічай распустай пакуль не займаецца; ён наведвае Пушчу толькі палюбавацца ёю...

Такой вось кашкі наварылі вялікія сарокі-вароны ў нашай пушчы. Калі б дзяржаўная граніца пралягла інакш, калі б не пост-югаслаўскі капрыз Хрушчова, то расказ пра белавежскія паляванні савецкіх чыноў выглядаў бы можа крыху больш адлеглым, а, магчыма, і больш свойскім... А Віскулі — хто б пра іх у свеце ведаў; можа толькі навакольныя дзядулі і бабулі...

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

Сяргей ЧЫГРЫН

Лёс беларусаў Беласточчыны

# За суткі пакінулі хутар Лявіцкія

Марыя Адамаўна Райдзюк жыла ў вёсцы Лявонавічы на Дзятлаўшчыне. Але цяпер у старэйшай дачкі Ганны ў вёсцы Драбавічы. Калі са Слоніма ехаць на Дзятлава, то гэта вёска адразу пачынаецца за пасёлкам Казлоўшчына, а гэта 25 кіламетраў ад Слоніма і 20 ад Дзятлава. У вялікім доме сярод сваіх родных прытулілася і Марыя Адамаўна, хаця сумуе па Лявонавічах і часта ўспамінае хутар Лявіцкія Юхнавецкага сельскага савета Заблудаўскага раёна. У адным з пакояў дома вісіць у рамцы вялікі здымак яе сям'і. Там Марыя маленькая трымае ў руках мячык, а побач — брат, сястра, мама і тата. Здымак быў зроблены ў Беластоку ў 1937 годзе.

Дзявочае прозвішча спадарыні Марыі — Верамчук. Нарадзілася яна на хутары Лявіцкія ў 1934 годзе. Яе бацькі — Адам Іванавіч і Агафія Міхайлаўна Верамчукі былі родам з Беласточчыны. Бацька скончыў чатыры класы, шмат у чым разбіраўся, да апошніх дзён заставаўся даволі адукаваным чалавекам і паважаным не толькі ў Лявіцкіх, але і ў навакольных вёсках і хутарах. Яго вяскоўцы восенню 1939 года аднагалосна абралі дэлегатам на Народны сход Заходняй Беларусі.

У сям'і Верамчукоў было трое дзяцей: сын Мікалай і тры дачкі — Софія, Яўгенія і Марыя. Сын Мікалай і дачка Яўгенія ўжо памерлі, жывуць Марыя на Дзятлаўшчыне і Софія ў Мінску.

Марыя Верамчук (Райдзюк) з фотаздымкам сваіх родных, сям'ёй Верамчук (злева направа) сын Мікалай, дачка Марыя, Агафія (маці), Адам (бацька), дачка Софія ў Беластоку, 1937 г.

Па ўспамінах Марыі Райдзюк (Верамчук), калі пачалася Другая сусветная вайна і дайшла яна да іх хутара, аднойчы немцы прыйшлі на хутар і пачалі арыштоўваць бацьку Адама Верамчука за тое, што быў камуністам. Уся сям'я і суседзі пачалі прасіць немцаў не забіраць Адама, бо ён ніколі камуністам не быў, ён быў дэлегатам на з'езд, яго выбралі землякі. А адзін немец на дрэннай польскай мове сказаў, каб не хваляваліся і не плакалі, нічога дрэннага з Адамам не будзе, яго адпусцяць. І праўда, праз дзень адпусцілі. Але на другі дзень, калі Адам Верамчук малаціў збожжа, прыехалі немцы і ўсё ж забралі гаспадара зноў. Гэта было летам 1941 года. Мужчына быў адпраўлены ў канцлагер і дамоў ніколі больш не вярнуўся.

Жонка Адама Верамчука Агафія замуж больш ніколі не выходзіла, яна ўсё жыццё чакала свайго Адама і не верыла, што ён загінуў. Прапаноў было шмат, але Агафія чакала Адама і адна гадавала сваіх дзяцей. І пра замуж ніколі не думала.

Сям'я Верамчукоў у 1934 годзе пабудавала вялікі дом, была свая ўласная гаспадарка. Але жыць спакойна не давалі войны, а пасля вайны — розныя банды. „Неяк прыходзіць да іх чалавек, — пачала распавядаць Марыя Адамаўна, — прозвішча яго было ці то Герда ці то Гелда, і кажа, што сына яго забралі ў банду. Заўтра прыйдуць забіраць вашага хлопца, а калі не пойдзе, то застрэляць".

Усе Верамчукі спалохаліся і сказалі, каб сын і брат Мікалай больш дома не начаваў. Хлопец так і зрабіў. Ён пачаў хавацца ў сваякоў. Але так трываць было немагчыма. І сям'я Верамчукоў за суткі пакінула родную Беласточчыну і выехала на Гарадзеншчыну. Тым больш тады, па словах Марыі Верамчук, ішла вялікая агітацыя, каб беларусы пакідалі Беласточчыну і ехалі на Беларусь, дзе ім дадуць такое самае жыллё і зямлю — усё тое, што будзе страчана тут. І Верамчукі паехалі туды, куды выехала ўжо шмат сваякоў і землякоў. Але тут, на Беларусі, такіх умоў не было. Засялялі людзей туды, дзе былі пустыя хаты ці проста памяшканні. А перасяленцы з цягам часу самі іх дабудоўвалі і перабудоўвалі, а з гадамі будавалі ўласнае жыллё.

Сям'я Верамчукоў спачатку прыехала на Навагрудчыну, а потым пераехала на Дзятлаўшчыну. Марыя Верамчук (Райдзюк) скончыла Ваўкавыскі педтэхнікум і 33 гады адпрацавала настаўніцай малодшых класаў. Цяпер на пенсіі даўно...

Калі я завітаў да Верамчукоў дамоў у вёску Драбавічы, Марыя Адамаўна пахвалілася, што ў яе нарадзілася першая праправнучка. З чым я яе і павіншаваў.

---

Дзяржаўная ўстанова культуры
"Жодзінскі краязнаўчы музей"

## http://zhkm.by

Ёсць на карце беларускай краіны невялікі, але старадаўні горад Жодзіна. Месціцца ён непадалёк ад Мінска. Пры гэтым адной з яго асаблівасцей з'яўляецца роўная адлегласць ад сталіц трох суседніх краін — прыкладна па 650 кіламетраў ад Жодзіна да Варшавы, Кіева і Масквы.

Хоць горад і старажытны, а гэта значыць, маючы даўнюю гісторыю, якая пачынаецца ад сярэдзіны XVII стагоддзя, уласны краязнаўчы музей у ім з'явіўся толькі ў нашы дні. Аб гэтым сведчыць інфармацыя па сайце музея, які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://zhkm.by**. Так, толькі ў 1999 годзе была створана рабочая група па яго стварэнні. Але толькі праз дзевяць гадоў, у чэрвені 2008 года краязнаўчы музей адчыніў свае дзверы. „У 2014 годзе ў Жодзінскім краязнаўчым музеі была адкрыта экспазіцыя „Гісторыя Жодзіна са старажытных часоў да 1941 года". Дзякуючы гэтаму кожны наведвальнік музея атрымае для сябе станоўчае ўражанне і цікавую інфармацыю", — распавядаецца ў падрубрыцы „Гісторыя музея" на старонцы „Пра нас".

Уласна сайт музея мае даволі простае, але прывабнае выяўленне. На галоўнай старонцы месціцца апошнія навіны, датычныя музейнай справы ў гэтым невялікім гарадку. Варта адзначыць, што сайт цалкам адлюстроўвае цяперашнюю сітуацыю ў беларускіх анлайн-выданнях і сродках масавай інфармацыі, калі разам з беларускамоўнымі тэкстамі публікуюцца рускамоўныя. Пры гэтым цэлы інтэрфейс сайта на беларускай мове.

Як ад з'яўлення рабочай групы па стварэнні музея мінула дзевяць гадоў, так і ад першых яго наведвальнікаў да прадстаўніцтва гэтай установы ў інтэрнэце спатрэбіўся прыкладна такі самы час. Такую высnову робіш, калі зойдзеш у падрубрыку „Архіў", дзе знаходзяцца старыя паведамленні, якія толькі за 2018 год.

Разам з тым за мінулыя дзесяць гадоў музей сабраў даволі ладную калекцыю экспанатаў. „Музейныя фонды нашага музея (разам з падраздзяленнямі) налічваюць 10 020 музейных прадметаў асноўнага фонду і 2358 — навукова-дапаможнага (на 01.01.2018 г.). Прадметы ўваходзяць у музейныя калекцыі, якіх налічваецца каля дваццаці. Самыя шматлікія калекцыі: фотадакументы, друкаваныя выданні, фалерыстыка, дакументы", — распавядаецца ў падрубрыцы „Музейныя калекцыі" на старонцы „Пра нас".

Пра тое, якія экспазіцыі ёсць у музеі, можна даведацца, зазірнуўшы на старонку „Паслугі". Найбольшую цікавасць, калі не лічыць вышэйзгаданую пастаянную экспазіцыю, выклікаюць часовыя выставы. Зараз гэта „Прырода нашага краю", „Калядныя сустрэчы" і музей навукі „Элементарыюм". Краязнаўчая ўстанова ладзіць таксама паказы сваіх калекцый на выездзе. Гэта выставы „Знакамітыя жодзінцы", „Птушкі нашага краю", „Калекцыі нумізматыкі і баністыкі з фондаў музея" і „Калекцыя фалерыстыкі з фондаў музея". На жаль, паглядзець іх на сайце немагчыма, бо там пазначаны толькі назвы гэтых выязных экспазіцый.

Таксама ў дадзенай рубрыцы паведамляецца, што музей мае дзве структуры. Гэта дом-музей Настассі Купрыянавай, якая стала правобразам манумента маці-патрыёткі, і гарадская выставачная зала.

Апроч выстаў і лекцый музей аказвае паслугі па пошуку інфармацыі з асабістых архіваў.

Аляксандр ЯКІМЮК

---

Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара

## 150 гадоў з дня нараджэння

# Ядвігіна Ш.

Адзін з пачынальнікаў беларускай мастацкай прозы, літаратуразнавец, публіцыст Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі) нарадзіўся ў маёнтку Добасна (цяпер Кіраўскі раён Магілёўскай вобласці) у сям'і Яна і Вольгі Лявіцкіх. Вядомы як аўтар баек у прозе, лірычных апавяданняў, сатырычнай замалёўкі, дарожных нататак, фельетона, мастацкай публіцыстыкі, мемуараў. Вялікае значэнне для празаічнай формы беларускай літаратуры меў яго раман „Золата".

Калі сям'я пераехала ў Карпілаўку пад Радашковічамі, у 1877-1878 гг., Антон вучыўся ў нелегальнай школе ў Люцінцы, якую арганізавала дачка Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча Каміла. Паспяхова скончыў Мінскую гімназію і паступіў на медыцынскі факультэт Маскоўскага ўніверсітэта. 8 сакавіка 1890 г. за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях Ядвігін Ш. арыштаваны, зняволены на некалькі месяцаў у Бутырскую турму, пасля чаго выключаны з універсітэта.

Пасля турмы Ядвігін Ш. не дамагаецца аднаўлення ва ўніверсітэце. Здае экзамен на аптэкара, практыкуецца і выязджае ў Беларусь у Карпілаўку. Ад цяжкай хваробы памірае бацька, а неўзабаве здараецца пажар, які знішчыў дом. Ядвігін Ш. будуе для сям'і невялікую хатку, а сам выпраўляецца ў Мінск і здае экзамен на аптэкара. Пасля кароткай практыкі пераводзіцца ў Радашковічы, працуе памочнікам правізара. У Радашковічах Ядвігін Ш. стаў сябрам гуртка мясцовай інтэлігенцыі, браў удзел у літаратурных вечарынах. У 1892 годзе напісаў камедыю „Злодзей". Рыхтаваўся спектакль, але ён не прайшоў цэнзуру. Пасля папярэджання пракурора спектакль не адбыўся. Камедыю не надрукавалі, а рукапіс не захаваўся.

У 1894 г. Лявіцкі пабраўся шлюбам з радашковіцкай швачкай Люцыяй Гнатоўскай. У іх нарадзілася чацвёра дзяцей: Ванда, Лявон, Вацлаў і Казімір. Лявіцкі загадваў крамай запаснога насення землеўласнікаў, бо па стане здароўя адмовіўся ад аптэкарства. Прагарэўшы на новай справе, вярнуўся ў Карпілаўку. Першае апавяданне Ядвігіна Ш. пабеларуску, якое мела назву „Суд", было надрукаванае ў 3-ім нумары газеты „Наша доля". У 1903-1904 гг. супрацоўнічаў з мінскімі і віленскімі выданнямі. У 1909-1910 гг. жыў у Вільні, працаваў сакратаром, загадчыкам літаратурнага аддзела „Нашай нівы". Шмат пісаў і друкаваўся. У 1913 г. працаваў у рэдакцыі газеты „Беларус". Увесну 1910 г. пісьменнік вандраваў пешшу па Беларусі, з Вільні да Карпілаўкі прайшоў больш за 500 км. У сваіх падарожных нататках у „Нашай Ніве" пад назвою „Лісты з дарогі", расказаў пра мястэчкі і вёскі, цікавых людзей.

Маёнтак Ядвігіна Ш. часта наведваў сын суседа-арандатара Дамініка Луцкевіча — Янка Купала. У 1912 г. у пісьменніка выйшаў зборнік „Бярозкі", у 1914 — „Васількі". Апошні выдадзены ў друкарні Марціна Кухты за грошы Магдалены Радзівіл. У лістападзе 1913 г. Лявіцкі пераехаў з Вільні ў Мінск, быў тэхнічным рэдактарам беларускіх часопісаў: сельскагаспадарчага „Саха" і для дзяцей і моладзі „Лучынка". У час Першай сусветнай вайны арганізаваў беларускае таварыства дапамогі ахвярам вайны, дзе пазнаёміўся з Максімам Багдановічам, ставіў спектаклі. У Карпілаўцы працаваў беларускамоўны прытулак для дзяцей бежанцаў.

У час вайны Ядвігін Ш. захварэў на сухоты. У 1918 г. яго стан рэзка пагоршыўся, што змусіла легчы ў Мінскі шпіталь, а потым выехаць у Карпілаўку. Увосень 1920 г. вярнуўся ў Вільню і рыхтаваў да выдання свае „Успаміны". Памёр у Вільні ў шпіталі 24 лютага 1922 г. Пахаваны на могілках Росы на літаратурнай горцы.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

Плянта

## Вясковыя гаспадыні гуртуюцца

Зараз шырока пайшла гутарка пра адраджэнне гурткоў вясковых гаспадынь (КГВ). Быў занепад і пра іх было ціха. Я памятаю КГВ, якія актыўна дзейнічалі ў вёсках Нараўчанскай гміны і пра якія пісаў у «Ніву».

Быў актыўны гурток, між іншым, у Плянце. Ён ладзіў розныя курсы і сустрэчы з людзьмі цікавых прафесій. Жанчыны прыходзілі на вячоркі ў чыгуначную святліцу (іншай у вёсцы не было). У гэтым шумна названым домам культуры ПКП адбываліся розныя курсы, у тым ліку нават на вадзіцельскія правы, цікавыя культурна-асветныя і забаўляльныя мерапрыемствы з нагоды знамянальных гадавін і дзяржаўных святаў. Ладзіў іх тадышні кіраўнік святліцы і заадно наш ніўскі карэспандэнт Уладзімір Клімюк.

У святліцы быў тэлевізар (першы ў тутэйшай ваколіцы) і прыязджала раз у тыдзень кінаперасоўка з Нараўкі. Было цікава. Ездзілі пасажырскія цягнікі, у чыгуначнай пачакальні быў буфет. У святліцу прыходзілі жыхары нават далёкіх суседніх вёсак.

І вось напрыканцы 2018 года ў новай святліцы ў аднаўленым — раней школьным — будынку ў Плянце зноў пачаў сваю дзейнасць Гурток вясковых гаспадынь «Каліна». Налічвае ён 20 асоб з Плянты, Гарадзіска і Новага Ляўкова. КГВ узначаліла Малгажата Краўчык. Найбольш дапамагаюць ёй, між іншым, Люцына Зданоўская, Галіна Бірыцкая (яна піша вершы і вышывае), Ірына Васько, Крыстына Мэер, Бажэна Паўлючук, Зіна Рубчэўская і другая Галіна Бірыцкая тут (яны абедзве з Плянты).

Гаспадыні з Плянты даведаліся, што дэпартамент сельскай гаспадаркі Маршалкоўскай управы ў Беластоку арганізуе конкурс на традыцыйны стол з нагоды куцці (stół wigilijny), як кажуць, проста з ходу прыступілі да яго і падумаць толькі — занялі другое месца! Традыцыйныя стравы плянтаўскіх гаспадынь былі даспадобы конкурснаму журы. Конкурс быў падсумаваны 20 снежня 2018 года ў рэстаране "Пяць дубоў" у Супраслі (удзельнічалі ў ім 14 КГВ). Войт Нараўчанскай гміны даў транспарт.

КГВ «Каліна» з Плянты прывёз дыпломы і рэчавыя ўзнагароды, між іншым, багаты камплект сучаснай кухоннай пасуды, камплекты сталовых прыбораў — лыжак, нажоў, відэльцаў і лыжачак. Гаспадыні акрылены поспехам набралі ахвоты да далейшай плённай дзейнасці. Зараз зімой мае быць навагодняя забава і іншыя мерапрыемствы.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

## Дзікія птушкі зімой

Зараз зімой мала хто з вясковых жыхароў думае пра дапамогу дзікім птушкам. А цяпер поўна снегу і яна патрэбная. Зараз на вёсцы не тое, што калісьці. Мала хто з сялян займаецца жывёлагадоўляй. Толькі некаторыя яшчэ гадуюць малочных кароў. У 2018 годзе ў Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны перасталі гэтым займацца трох гаспадароў. Астаўся адзін. Нават у даволі вялікім тым ці іншым сяле ўжо не ўбачым коней. Гаспадыні не хочуць гадаваць курэй, гусей і качак. Яны на пенсіі, і, як самі кажуць, старыя. Навошта ім працаваць. Толькі тэлевізары свецяцца і гудуць амаль кругласутачна ў хатах, дзе яшчэ хто жыве. Вось у снежні 2018 года памёр 95-гадовы жыхар і яго драўляная хата стаіць пустая. Не запальваюцца электралямпачкі ў дваццаці хатах.

А, вядома, калі няма гадоўлі хатняй жывёлы і птушкі, як тады жыць зімой курапатцы ці вераб'ю. Дзе падхапіць зярнятка ці іншы корм. На прасторных сялянскіх панадворках пуста як на бяскрайняй сухой пясчанай пустыні. Чым тая шэрая птушачка можа пажывіцца? Ды і не мае дзе схавацца ў снежную мяцеліцу ды мароз. Няма прыязных дзікім птушкам драўляных поўных снапоў жыта або пшаніцы стадолаў, і хлявоў накрытых саломай, і стагоў саломы ці сена. У стадолах няма сена і гуляе вецер. Таму цяпер так мала вераб'ёў, сарок, варон, курапатак і іншых птушак. Рэдка калі прылятаюць у вёску снегіры і сініцы, якія зараз трымаюцца бліжэй лесу. Сустрэнем іх, між іншым, у раскінутай па шырокай тэрыторыі ды пад лесам, вёсцы Плянта. Там іх некаторыя гаспадыні падкормліваюць.

Калі мы з братам былі дашкольнікамі, чакалі прылёту снегіроў і сініц у наш заснежаны агарод каля хаты. А вераб'ёў, варон, амялушак і сарок было тады многа. Мы чакалі ля акна, калі ў зімні дзень або найчасцей пад вечар да нас прыляцяць каляровыя птушкі. Яны нас развесялялі. Наш бацька зрабіў для іх кармушкі і былі яны прывязаныя на дзвюх яблынях перад вокнамі нашай хаты.

Калі я хадзіў у Пачатковую школу ў Старым Ляўкове, мы рабілі кармушкі і прыносілі зерне для нашых крылатых сяброў нават падчас зімніх канікулаў. Птушкі ж чакалі корму кожнага зімовага дня. Кармушкі былі тады таксама пры школах у Ахрымах, Лешуках і ў Плянце.

Цікава мне было бачыць як зараз пастаяннай падкормкай птушак займаецца Канстанцін Ярашук (ён любіцель прыроды, садавод і шматгадовы пчаляр) з малой лясной вёсачкі Новіны Нараўчанскай гміны. Да спадара Канстанціна прылятаюць розныя птушкі, якія ў нас зімуюць і дзятлы, якія ў нас пастаянна жывуць. Яны — мітуслівыя ды шустрыя крылатыя госці — самотнаму пажылому чалавеку прыносяць радасць.

(яц)




## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. звязаны пучок галінак для падмятання = 4 _ 3 _ 2 _ 28 _ 29 _;
2. цвіце лілова-ружовымі кветкамі ў верасні = 25 _ 24 _ 19 _ 20 _ 21 _;
3. водбліск пажару або захаду сонца = 1 _ 33 _ 32 _ 18 _ 17 _ 30 _;
4. рака, што ўліваецца ў возера Балхаш = 9 _ 6 _ 7 _;
5. горад Сакрата Яновіча = 11 _ 12 _ 13 _ 14 _ 34 _ 15 _;
6. 2,54 сантыметра = 16 _ 35 _ 27 _ 26 _;
7. буйная цэнтральнаазіяцкая жвачная жывёліна = 5 _ 8 _;
8. лодка з ветразем = 31 _ 10 _ 22 _ 23 _.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | | | |
| | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | | | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| | | | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |
| | | | | | | 32 | 33 | 34 | 35 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 49 нумара**

Гід, ёд, крыга, ластаўка, нож, сядло, цана, цешча, цяля, шчаўе.

Рашэнне: **Для няшчаснага жыццё доўгае, для шчасліўца кароткае**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

## 06.01 — 12.01

**(22.03. — 20.04.)** Шанцы на ўдзел у новым цікавым праекце. 7-9.01. аварыі, катастрофы і пробкі. Большая доза ўражанняў. Крытыкуй канструктыўна, не марнуй часу на барацьбу з канкурэнцыяй. Не хавай галаву ў пясок, ставай да саперніцтва. Праблемы вырашай сістэматычна.

**(21.04. — 21.05.)** Адчуеш сябе ўпэўненым, вернеш раўнавагу і спакой. Узровень тваёй энергіі невысокі, затое інтэлектуальна ты на вярхах. 7.01. зразумееш, што ў пачуццях жывеш ілюзіямі. Пойдзеш уперад багацейшы ўражаннямі. Дома завядзеш парадкі і справядліва раздзеліш абавязкі. Маеш карысны час на змену працы, заснаванне ўласнага бізнесу. Маеш шанц пайсці вышэй, здабыць узнагароду, выйграць конкурс, зоркі спрыяюць асабліва 9-13.01. Пільнуйся ад інфекцый.

**(22.05. — 22.06.)** Дзякуючы рэфлексу маланкава зарыентуешся ў сітуацыі і гарантуеш сабе немалыя карысці. 7-9.01. не спяшайся, думай талкова, каб сабе не зашкодзіць. Праца і абавязкі. Умеласць працы пад націскам часу і дзеянні на некалькіх франтах прыдадуцца табе 7-9.01. Варта варушыцца на адкрытым паветры.

**(23.06. — 23.07.)** 5-7.01. пара на медытацыі, афірмацыі і вяртанне сілы. Заімпануеш блізкім спакоем і стрыманасцю. Твая дапамога акажацца неацэннай, але не забывай пра сябе. Будзеш мець ахвоту пабыць у самоце. Хаця шыкуюцца флірты. Не бяры на сябе новых заданняў. Не выходзь наперад, займайся «бягучкай». 7-9.01. можаш сцягнуць на сябе лавіну крытыкі. Але твае веды і досвед прыдадуцца пры шуканні новага занятку. 9-13.01. асцярожна са спакусай зарабіць хуткія і лёгкія грошы, бо можаш не даць сабе рады і наробіш страт.

**(24.07. — 23.08.)** Будзеш дацэнены, дачакаешся ўзнагароды. Людзі будуць пра цябе добра думаць і яшчэ лепш гаварыць. Пазбягай інтрыг і плётак, асабліва ў месцы працы 9-13.01. Будзеш браць на сябе амбітныя заданні. Самотны Леў пазнаёміцца з кімсьці вартым увагі. Краса і асабістая прывабнасць. На працы амбітнасць і энтузіязм памогуць табе дасягнуць поспеху. Лепшы настрой, а затым і выгляд.

**(24.08. — 23.09.)** Не перайма́йся дробнымі праблемамі і не паддавайся зімовай дэпрэсіі. Неўзабаве адчуеш паляпшэнне. Не будзе лёгкіх перамог. На шчасце будуць добрыя задумы і энергія для іх рэалізацыі. 7-9.01. набярэш ахвоты на любоўныя гульні. На працы многа абавязкаў і пільных спраў; патрэбная самадысцыпліна. 7-9.01. магчымыя непаразуменні з блізкімі.

**(24.09. — 23.10.)** Свет будзе табе прыхільным. Шмат можаш здабыць дзякуючы зычлівым людзям і знаёмствам. Будзе больш працы. Здзейсняцца нейкія твае мары. Пільнуйся ад аварый і раненняў. Падумай, пакуль пачнеш дзейнічаць. Марс пакажа выбуховы бок тваёй натуры. Ад грошай важнейшы будзе для цябе духовы развой. Калі шукаеш працу, ідзі туды дзе будзеш мець кантакт з цікавымі людзьмі і магчымасцю навукі новага. Але не рабі дарам! Тваю кар'еру можа прытармазіць празмерная сціпласць і нясмеласць. Не бойся бараніць сваіх ідэй і рацыі (асабліва 7-9.01.)!

**(24.10. — 22.11.)** Шмат спраў будзе патрабаваць твайго моцнага ўдзелу. Спадзявайся добрага іх завяршэння. 9-13.01 цяжкую сітуацыю апануеш і абернеш на сваю карысць. Не на ўсё хопіць табе энергіі, засяродзься на найважнейшым. Умацуешся духоўна. 9-13.01. шукай новых дарог развою і самарэалізацыі. Цяжка змяніць стыль жыцця, асабліва народжаным у II дэкадзе.

**(23.11. — 22.12.)** Ты цяпер на хвалі — карыстайся шанцамі і прыемнасцямі, але памяркоўна! Ашчаджай. Большы тэмп жыцця, аформіш некалькі важных спраў. Добрая задума на бізнес. На працы прыкладвайся да ўсяго на 100 працэнтаў. Будзь пільны, нават калі ўсё добра.

**(23.12. — 20.01.)** 5-7.01. шанц вызваліцца ад абмяжоўваючага. Новыя, смелыя але рэальныя мэты на 2019 год. Пільнуй сваіх рацый. Будзь разважлівы і рамантычны. Не страчвай панавання. 7-9.01. не скажы лішняга слова. Работа гарыць у руках. 9-13.01. новыя задумы, харызма і сіла. Паб'еш канкурэнцыю.

**(21.01. — 19.02.)** Вялікія залежы магчымасцей. Возьмеш справы ў свае рукі. Здабудзеш прызнанне і сімпатыю. Апошні званок да пазітыўных змен, асабліва на працы. Удасца мінулагодні праект. Задбай аб форму, можаш пахудзець.

**(20.02. — 21.03.)** Добрыя вынікі ў вучобе і працы, хаця будзеш схільны будаваць замкі на лёдзе. Можаш адчуваць стому. Не паддавайся настроям. У пары магчымыя праблемы і расчараванні. Вольная рука ў рэалізацыі прафесійных планаў. Малавата энергіі, дык яе не марнуй на драбязу. 7-9.01. чакае цябе канфрантацыя з нелюбімай асобай. А твая ахвяра ад 8.01. можа пайсці дарма.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

(працяг з папярэдняга нумару)

# «Бязмежжа» — біяграфічная з'ява! Новае Ляўкова 14-16.12.2018

**«Бязмежжа»** — рэдкая нагода для абмеркавання новых з'яў і пошукаў у беларускай літаратуры па абодвух баках мяжы. Гэтыя дзве родныя літаратуры ідуць асобнымі шляхамі і толькі зрэдку іх дарогі перасякаюцца. Аўтары Падляшша ад пачатку прысуджаны на свае сілы і сродкі. Раней адштурхвала камуністычная ідэалогія, якая імкнулася падпарадкаваць сабе літаратурны працэс. Тыя ідэалагічныя творы, які з'явіліся ў шасцідзясятых і сямідзясятых гадах і ў нас, сёння сарамлівая, прыхаваная тэма. Беларуска-падляшскія аўтары ад пачатку краналі патрыятычныя і асабіста-экзістэнцыяльныя тэмы. Узоры ў вялікай меры чэрпалі з польскай і еўрапейскай (у тым ліку рускай) літаратуры. Так засталося па сённяшні дзень. Тым не менш рэдкія кантакты з Мінскам — надта важныя і прэстыжныя для нашых аўтараў. Іх заўсёды недастаткова...

Што тады спрацоўвае на рэальную ізаляванасць?

На гэтае пытанне адказаў Ціхан Чарнякевіч, які прааналізаваў школьныя падручнікі ад пятага па дзясяты класы ў Рэспубліцы Беларусь. Там беларусы замежжа не існуюць як нацыянальная меншасць. Усе замежнікі — цьмяная дыяспара, людзі, якія па розных прычынах з'ехалі з Беларусі. Аўтары падручнікаў характарызуюць іх адмоўна, называючы «беспрытульнымі бадзягамі», «служкамі чужых інтарэсаў»...

Беларусы Польшчы згадваюцца ўсяго адзін раз у падручніку па геаграфіі. Яны, паводле аўтараў, дыяспара, то-бок людзі, якія калісь з'ехалі з тэрыторыі Беларусі.

* * *

У Рэспубліцы Беларусь замоўчана не толькі тэма беларусаў Падляшша. З крайняй ігнаранцыяй успрымаецца імя Святланы Алексіевіч. Кніжкі лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі не прымаюць у бібліятэкі, не запускаюць у працэс навучання. Хоць яе кнігі перакладзены ўжо на 75 моў свету (у тым ліку на мову падпаленай вайной Сірыі), дарэмна шукаць іх па-беларуску. У менскіх ці гарадзенскіх кнігарнях няма кніжак Алексіевіч ні па рускай, ні на беларускай мове. Прычына ізаляванасці таленавітай аўтаркі — банальная. Лаўрэатка Нобелеўскай прэміі крытычна ставіцца да асобы Аляксандра Лукашэнкі. Нюансы канфлікту асветлены ў знакамітай кнізе-інтэрв'ю «У пошуках сэнсу», складзенай Сяргеем Шапранам. Змест кнігі складаюць інтэрв'ю і дыялогі са Святланай Алексіевіч, выдадзенай да яе 70-годдзя.

— А якраз у маі, у Мінску, праходзіў З'езд старшынёў еўрапейскіх літаб'яднанняў і ўсе хацелі з ёй сустрэцца, — успамінае Барыс Пятровіч, старшыя Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Разам з прызнаннем прэміі Алексіевіч узрасла цікавасць да беларускай літаратуры ў свеце.

— Нашы госці, якія прадстаўлялі за трыццаць краін свету, дайшлі да адной высновы — што беларуская літаратура адна з самых цікавых і самых невядомых у Еўропе, — падвёў усё Барыс Пятровіч.

Пра тое, што існуе шанц на адкрыццё, паказваюць навейшыя з'явы. У сучасны момант найбольш кніг беларускіх аўтараў перакладзены на англійскую і нямецкую мовы.

Добрай навіной парадаваў гасцей «Бязмежжа» беластоцкі выдавец Андрэй Каліноўскі. Ужо ў сакавіку 2019 года выйдуць польскія пераклады кніг Зміцера Бартосіка «Быў у пана верабейка гаварушчы» і гродзенскага паэта і барда Віктара Шалкевіча «Мястэчка Г.».

— Я думаю пра асобную паліцу беларускіх аўтараў, — падзяліўся планамі выдавец Каліноўскі. — Трэба найменш шэсць аўтараў, каб голас малавядомых у нас прозвішчаў прамовіў з большай сілай. Тады дзейнічаюць ужо іншыя механізмы. Ёсць кантэкст, ёсць што прапанаваць. А ўжо на сённяшні момант патрэбныя рэцэнзіі запланаваных кніг, каб яны неадкладна трапілі да чытача. Чакаю дапамогі з беларускага боку!

* * *

Рэцэнзіі — самае кволае звяно ў беларускім літаратурным свеце. На старонках самага прэстыжнага літаратурнага часопіса «Дзеяслоў» азначаны толькі кнігі прызнаных пісьменнікаў. На «Бязмежжы» шмат месца было адведзена менавіта часопісу «Дзеяслоў». Паводле Анатоля Івашчанкі, часопіс, які выдаецца з 2002 года (выйшаў ужо 97 нумар), стаў люстрам літаратурнага працэсу.

— У нас таксама захаваны прынцып «гендар», — гаварыў Івашчанка.

Вялікая колькасць літаратараў выйшла са «Школ маладога літаратара». У іх выкладаюць вядомыя пісьменнікі, у тым ліку сама Святлана Алексіевіч. Папулярнасць адукацыйна-мастацкага праекта, прыдуманага Саюзам беларускіх пісьменнікаў, перайшла ўсе спадзяванні:

— Сёлета мы мелі 184 кандыдатаў на 20 месцаў, — адзначыў Барыс Пятровіч. — Такой зацікаўленасці няма на філалагічных і журналісцкіх факультэтах. Навука завяршаецца падрыхтоўкай і выданнем кніг для шасці курсантаў.

Новая, надта надзейная з'ява вакол беларускай літаратуры для дзяцей. Штуршок для развіцця пайшоў са Швецыі. Шведы, якія здаўна ў авангардзе сусветнай дзіцячай літаратуры, шмат паспрыялі ў здзяйсненні перакладаў на беларускую мову. Дзякуючы кнігам Астрыд Ліндгрэн ці надта папулярнага ў апошні час Свена Нурдквіста, з'явіліся цэлыя пакаленні беларускіх чытачоў. Трэнд падлавілі і беларускія аўтары і мастакі, якія разам з літаратурай прэзентуюць юнаму чытачу фантастычны дызайн і казачныя ілюстрацыі:

— Дзеці і моладзь, — гаварылі госці з Беларусі, — нашы найлепшыя чытачы.

Каб у нейкай меры скараціць дарогу да чытача, Саюз беларускіх пісьменнікаў ладзіць літаратурныя фестывалі ў рэгіёнах. Адзін з самых вядомых літфестываляў праходзіць на радзіме паэта Анатоля Сыса ў Гарошкаве на Гомельшчыне (аўтарка гэтых радкоў сёлета мела гонар прэзентаваць там свае кнігі, а дапамагаў нястомны рэдактар Яўген Вапа). Падобныя мерапрыемствы адбываюцца ў Белаазёрску ў гонар Ніны Мацяш на Брэстчыне. Сярод новых з'яў — Фестываль Тацяны Сапач, які ўжо два разы прайшоў у Маркаве на Маладзечаншчыне. Неўзабаве чарговы выпуск Фестывалю імя Міхася Стральцова — «Вершы на асфальце». На гэтым прэстыжным паэтычным мерапрыемстве прысутны беларускія паэты Падляшша. У 2018 годзе з поспехам выступіў Андрэй Сцепанюк, а зараз збіраецца чытаць свае вершы Міра Лукша. Таксама СБП выдае літаратурныя альманахі ў рэгіёнах і праводзіць восем літаратурных конкурсаў, якія выдатна ажыццяўляюць літаратурны працэс. У іх усё часцей прымаюць удзел беларускія літаратары Падляшша.

* * *

Літаратурныя чытанні і прэзентацыі XXI «Бязмежжа» пачаліся з дотыку да гістарычных, балючых тэм. Яраслаў Іванюк прадставіў праект Беларускага гістарычнага таварыства «Наша памяць». Гісторыкі і валанцёры рашылі выправіць фактаграфічную каламуць вакол сумнавядомых падзей 1946 года. Ідзе пра помнікі ахвяр «Бурага», дзе свядома перайначаны даты і лік ахвяр.

Другая тэма — «Галасы расстраляных тэчак» — кранаў творчую спадчыну Уладзіслава Ахроменкі, журналіста і пісьменніка, які памёр 9 лістапада 2018 г. у Беластоку. Ахроменка, на аснове кіеўскіх архіваў КДБ, паказаў нябачны, знішчальніцкі працэс беларусаў як нацыі. Яўген Вапа, які высока цаніў працу журналіста, паабяцаў, што да чарговага «Бязмежжа» ў 2019 годзе «Галасы расстраляных тэчак» выйдуць асобнай кнігай.

Гэта крок у напрамку таго, каб хоць крыху размякчыць тую жалезную ізаляванасць з Рэспублікай Беларусь.

Тэкст і фота
**Ганны КАНДРАЦЮК**


Міхась Андрасюк, Павал Грэсь, Яўген Вапа


Віктар Шніп, Андрэй Сцепанюк, Барыс Пятровіч Сачанка


Кася Сянкевіч, Янка Целушэцкі, Яраслаў Галубоўскі — войт гміны Нараўка

**«БЯЗМЕЖЖА» падтрымалі фінансава міністр унутраных спраў і адміністрацыі і Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства.**

ISSN 0546-1960